19 ліпеня 2019 | № 27 (638)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144



# Чаму сядзіць тройчы апраўданы Галавач?



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Гісторыя галоўнага інжынера МЗКЦ, які ўжо больш за 50 месяцаў сядзіць у СІЗА, цягне не толькі на рэкорд па тэрміне ў зняволенні без прысуду. Гэта яшчэ і рэкорд пракурорскага цынізму.**

У лютым 2018 года суд прызнаў галоўнага інжынера Мінскага завода колавых цягачоў Андрэя Галавача невінаватым у атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры. Яго павінны былі вызваліць у зале суда. Радасныя сваякі ўжо спусціліся ўніз, чакаючы сустрэчы. Але да іх выйшлі толькі адвакаты і паведамілі, што Андрэя Галавача затрымалі зноў і прад'явілі новыя эпізоды абвінавачвання.

Андрэй Галавач працаваў на прадпрыемстве з 1984 года. У 2006-м стаў галоўным інжынерам. Пры Галавачу МЗКЦ стаў адным з лідараў у прамысловасці краіны. Сённяшні абвінавачаны прымаў непасрэдны ўдзел у распрацоўцы рэактыўнай устаноўкі залпавага агню «Паланэз». Той самай, якую цяпер з гонарам дэманструюць падчас ваенных парадаў у Мінску. За распрацоўку колавых шасі і цягачоў чацвёртага пакалення галоўны інжынер і калектыў прадпрыемства ў 2013 годзе нават атрымалі дзяржаўную прэмію.

А ўжо ў 2015-м да яго прыйшлі супрацоўнікі ГУБАЗіК. Галоўнага інжынера абвінавацілі ў тым, што разам з двума іншымі фігурантамі ён атрымліваў хабары «за садзейнічанне пры пастаўках на завод рэжучага і дапаможнага інструмента». Галавач узначальваў камісію па закупках і, паводле версіі следства, лабіяваў інтарэсы кампаніі «Рэал», якая працавала з заводам на працягу многіх гадоў. Маўляў, ён свядома не ішоў на прамыя кантракты з вытворцам, а садзейнічаў выбару пасярэдніка.

Следства ўстанавіла больш за 80 эпізодаў атрымання хабару, з якіх 34 ставіліся ў віну галоўнаму інжынеру. Нібыта з 2012 па 2015 год ён атрымаў 180 тысяч дэнамінаваных рублёў. Пры гэтым ні адзін з 86 допытаных сведак не пацвердзіў, што Галавач лабіяваў нечыя інтарэсы або браў хабар. Нават тагачасны міністр прамысловасці, а цяпер — генеральны дырэктар МТЗ Віталь Воўк у судзе схіляўся да таго, што Галавача абгаварылі.

Урэшце, пасля трох гадоў знаходжання ў СІЗА, галоўнага інжынера прызналі вінаватым, але пасля абскарджвання — апраўдалі. Усяго па гэтай справе суды апраўдвалі Галавача тройчы. Праўда, на волю ён так і не выйшаў: яго зноў затрымалі наўпрост у зале суда пасля абвяшчэння апраўдальнага прысуду. Цяпер Андрэя Галавача падазраюць у тым, што ён з 2012 па 2015 год атрымаў хабар у 70 тысяч долараў.

Затрыманні за хабар кіраўнікоў прадпрыемстваў і чыноўнікаў — не навіна для Беларусі. Але звычайна іх «накрываюць» на месцы злачынства з доказамі гэтага самага злачынства. Вось толькі ў справе Галавача нічога гэтага няма. Усё абвінавачванне грунтуецца на словах чатырох хабарадавальнікаў, пры гэтым адметна, што за ўвесь час працэсу ні адзін з іх не з'явіўся на допыт. То-бок, няма ні відэа, ні аўдыёзапісаў, ёсць толькі людзі, якія



**Сапраўдная мэта — не ўстанавіць справядлівасць і пакараць вінаватых, а кінуць за краты толькі аднаго чалавека**

заяўляюць, што нібыта перадавалі Галавачу хабары 10–12 гадоў таму.

Дзіўна, што бізнесоўцы, якія адкрыта пра гэта заявілі, не былі прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці, як таго патрабуе закон. Трое з іх знаходзяцца ў Расіі, і адзін — у Канадзе. Ладна, Канада, але хіба такая вялікая праблема для нашых следчых органаў — запатрабаваць гэтых людзей з суседняй дзяржавы, з якой у нас няма нават межаў? Але чамусьці гэтага не зрабілі. Пытанне — чаму?

Адказ напрошваецца толькі адзін: таму што сапраўдная мэта гэтага працэсу — не ўстанавіць справядлівасць і пакараць вінаватых, а кінуць за краты толькі аднаго чалавека — галоўнага інжынера МЗКЦ. Дзе і каму ён перайшоў дарогу, што пракурор так стараецца выставіць яго вінаватым, не прадставіўшы належных доказаў, — гэта ўжо іншае пытанне.

Тым не менш, дзяржабвінаваўца палічыў, што віна Галавача даказаная цалкам, і запрасіў для яго 9 гадоў калоніі. За што — так ніхто з тых, хто сачыў за працэсам, і не зразумеў. Сам пракурор прызнаў, што ў справе маецца блытаніна з датамі здзяйснення злачынстваў, дэталямі нібыта перадачы хабараў, аднак лічыць, што словы хабарадавальнікаў не варта ставіць пад сумнеў, таму што з тых падзей прайшло шмат часу.

І яшчэ адна цікавая дэталь, на якую звяртаюць увагу адвакаты абвінавачанага: не называецца шкода, нанесеная дзеяннямі Галавача. А хіба можа дзяржслужбоўца, перавышаючы службовыя паўнамоцтвы, не нанесці шкоды? Урэшце, галоўны інжынер МЗКЦ больш за год быў у распрацоўцы ГУБАЗіКа, за гэты час «праваахоўнікі» маглі зладзіць мноства аперацый, каб узяць падазраванага на месцы злачынства. Але гэтага не зрабілі. А можа, проста не атрымалася — таму што Галавач сапраўды не браў хабар?

Працяг на стар. 2 »

# Чаму сядзіць тройчы апраўданы Галавач?

« Працяг. Пачатак на на стар. 1

Тым часам супрацоўнікі МЗКЦ пісалі ліст Лукашэнку ў падтрымку Андрэя Галавача. Пад ім сабралі амаль 900 подпісаў — пагадзіцеся, салідная характарыстыка стаўлення калектыву да галоўнага інжынера. Але Галавач працягвае сядзець на Валадарцы пяты год — гэта рэкордны для Беларусі выпадак, кажуць юрысты. Нядаўна суд «не ўбачыў падстаў» змяніць меру стрымання і адпусціць галоўнага інжынера пад хатні арышт.

Яшчэ адной шакуючай навіной стала тое, што ў дачыненні да адваката Галавача ўзбуджаныя дзве крымінальныя справы: па арт. 407 КК (Разгалошванне дадзеных дазнання, папярэдняга следства ці закрытага судовага пасяджэння) і па ч. 2 арт. 295 КК (Незаконныя дзеянні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў). Хаця прозвішча адваката не называецца, МУС пацвердзіла, што гаворка ідзе пра абаронцу галоўнага інжынера МЗКЦ, намесніцу старшыні Мінскай гарадской калегіі адвакатаў. Імаверна, маецца на ўвазе Вера Арэшка, якая больш за 20 гадоў працуе ў адвакатуры. Паведамляецца, што падчас ператрусу ГУБАЗіК знайшоў у адвакаткі прыдатны для стральбы пісталет «Walter» mod. 1938 (P.38) і патроны да яго.

Гэтая гісторыя дае падставы меркаваць, што ў справе Галавача не ўсё так проста. Паведамленне насцярожыла нават генеральнага пракурора Аляксандра Канюка. «Узбуджэнне крымінальных спраў у дачыненні да адваката выклікала насцярожанасць у мяне як у суддзі. Я столькі гадоў прапрацаваў суддзёй, ведаю, што гэта такое, гэта выклікала насцярожанасць. Мы вельмі сур'ёзна правяраем справы, распачатыя ў дачыненні да адваката, не выключаю, што там будуць Генеральнай пракуратурай прыняты кардынальныя рашэнні», — цытуе Канюка tut.by.

Ці выплыве на паверхню прычына амаль 5-гадовага зняволення тройчы апраўданага галоўнага інжынера МЗКЦ, пакуль не вядома. Але ўжо цяпер зразумела, што гэта — не шараговая справа аб хабарніцтве, яе карані цягнуцца з вышэйшых кабінетаў беларускай улады.

Прысуд Андрэю Галавачу абвесцяць 19 ліпеня. Якім бы ён ні быў, гэты працэс скончыцца драматычна. Бо нават калі падсуднага апраўдаюць, 5 гадоў жыцця, праведзеных у зняволенні, ні яму, ні яго блізкім, ніхто не верне.

# Скрыншоты — моцны доказ?

Мікалай ДЗЯДОК

**У Мінскім гарадскім судзе адбыўся разгляд апеляцыі Глеба Рубанава на рашэнне суда Савецкага раёна, які аштрафаваў яго на 40 базавых за «распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў». Вёў справу суддзя Яўген Хадкевіч.**

Нагадаем, 13 траўня Глеб Рубанаў пасля раптоўнага начнога затрымання атрымаў 40 базавых штрафу за ўдзел у флэшмобе #яэкстрэміст. А фактычна — за каментар са спасылкай на пост Міколы Дзядка аб флэшмобе. Як вядома, пры публікацыі спасылкі ў каментарах у Фэйсбуку да яе «падцягваецца» прэв'ю-карцінка. Менавіта за яе — фота Міколы Дзядка ў прэв'ю, і судзілі Глеба ў траўні.

Напачатку пасяджэння IT-кансультант яшчэ раз выклаў паслядоўныя аргументы сваёй касацыйнай скаргі:

- Суд пацвердзіў законнасць прыцягнення да адказнасці без фармальных і непасрэдных доказаў віны, на здагадках. А менавіта, пратакол не ўтрымлівае інфармацыі аб прадмеце правапарушэння — дзеяннях асобы, якія б былі накіраваныя на азнаямленне нявызначанага кола асоб з «экстрэмісцкай» інфармацыяй, не ўтрымлівае ніякіх доказаў таго, што старонка належыць Глебу Рубанаву, і не ўтрымлівае ніякіх сведчанняў аб месцы і часе ажыццяўлення такіх дзеянняў.
- Сам пратакол мае выразныя прыкметы падробкі. Усё абвінавачанне будуецца на скрыншотах вышэй згаданага каментара, дзе да спасылкі падцягнулася прэв'ю. Аднак каментар, як вынікае са скрыншоту, быў пакінуты 05.03.2019, а пад ім знаходзіцца фэйсбучная пазнака «9 нед.». Значыць, агляд гэтай старонкі і складанне пратакола адбыліся праз 9 тыдняў пасля «правапарушэння». То-бок, у траўні 2019-га, а не 14.03.2019 — як сцвярджаецца ў пратаколе.

Як адзначае Глеб Рубанаў, нават гэтая «крымінальная» прэв'ю-карцінка да спасылкі ў многіх карыстальнікаў не адлюстроўваецца, калі праглядаць пост са смартфону альбо лэптопу. Ці не была яна пазней дададзеная ў фоташопе тымі, хто складаў пратакол?

Падчас пасяджэння суддзя запытаўся ў абвінавачанага: як ён патлумачыць адзін са здымкаў (Міколы Дзядка з плакатам) у пратаколе, які нібыта не з'яўляецца часткай пратаколу, а прысутнічае ў справе асобна? На што Рубанаў адказаў, што не бачыў гэтага здымку нідзе, акрамя як у пратаколе.

Яўген Хадкевіч прыняў тыповае для беларускай судовай сістэмы рашэнне: пастанову пакінуць у сіле, скаргу адхіліць.

Глеб Рубанаў падзяліўся з НЧ уражаннямі ад гэтага працэсу:

***— Чым гэты працэс адрозніваўся ад тысяч аналагічных судовых працэсаў «пад капірку» ў Беларусі?***

— Цяжка рабіць глабальныя высновы. Адзінае, магу заўважыць, што звычайна па справах за «інтэрнэт-экстрэмізм» пад вартай не трымаюць. Тут яшчэ было адрозненне ў тым, што я спрабаваў звярнуць увагу на фундаментальную непадсуднасць людзей за дзеянні ў меркаваных акаўнтах Фэйсбука, бо гэтая сфера не рэгламентаваная беларускім заканадаўствам. У астатнім вельмі падобна на тое, што я чуў пра іншыя палітычныя працэсы. Аргументы выслухоўваюцца, бяруцца да ведама — і прымаецца рашэнне, якое цалкам ім супярэчыць.

***— Калі ўсё так бессэнсоўна, чаму тады вырашылі абскарджваць у Мінскім гарадскім судзе?***

— Адна справа — ведаць, іншая справа — падмацаваць гэта практыкай. Я, як чалавек тэхнічнай адукацыі, лічу, што любая справа мусіць быць падмацаваная тэхнічнымі доследамі. Асноўным і кантрольным. Асноўны дослед мелі ў судзе першай інстанцыі і кантрольны — у апеляцыйным.

***— Далей будзеце абскарджваць?***

— Магчыма, яшчэ дакладна не ведаю.

***— Многія звычайныя людзі, не актывісты, калі сутыкаюцца з бязмежжам дзяржавы, часта баяцца скардзіцца на дзеянні афіцыйных асобаў, бо непакояцца, што прыцягнуць да сябе яшчэ болей увагі, бо будзе «яшчэ горш». Ці баіцеся вы гэтага?***

— Баяцца ўвогуле не варта, бо страх — гэта дэструктыўная эмоцыя, разбуральная. Я не думаю, што мне, ці ўвогуле камусьці, тут ёсць чаго баяцца.

# Недамаўляльныя?

Сяргей ПУЛЬША

**У кіраўнікоў Беларусі і Расіі — рознае ўяўленне пра «больш шчыльную інтэграцыю».**

Анансаваныя сустрэчы зрываюцца. Планы — перакройваюцца літаральна па ходзе справы. Бакі абменьваюцца шпількамі і нават завуаляваным шантажам. Падаецца, такога ў адносінах Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна яшчэ не было. Прычым, раней беларускі кіраўнік пільнаваў расійскага калегу на схілах горнага Сочы. Цяпер Пуцін чакае Лукашэнку.

Анансаваная сустрэча двух правадыроў сваіх народаў на Валааме 11 ліпеня не адбылася. Перад гэтай планаванай падзеяй Аляксандр Рыгоравіч уцямна заявіў Рыгору Рапоту, што «не збіраецца нешта вырашаць» у манастыры. Па-першае, таму, што Масква тармозіць працу групы па інтэграцыі, не вырашаючы канкрэтныя пытанні. А такіх пытанняў шмат: дамовы на пастаўкі нафты і газу, праца Рассельгаснагляду і блакаванне беларускай прадукцыі, прамысловая кааперацыя і вольнага доступу беларускіх прадпрыемстваў да дзяржзаказу Расіі, знакаміты падатковы манеўр... Па словах Лукашэнкі, расійскі бок гэтыя пытанні рэгулярна «забывае» абмеркаваць і вырашыць, — якая ўжо тут інтэграцыя. А таму ўзнікае «па-другое» — у пытаннях «больш глыбокай інтэграцыі» «абмяркоўваць няма чаго».

«Проста сустрэцца і пасядзець адзін перад адным, ні пра што не кажучы, — напэўна, гэты час ужо прайшоў», — рэзюмаваў Лукашэнка.

Рыгор Рапота на беларускім тэлебачанні фактычна пацвердзіў словы Лукашэнкі, прызнаўшы, што ў Мінска і Масквы няма адзінага разумення Саюзнай дамовы. «Гаворка ідзе пра выкананне тых пазіцый, якія ў дамове ўжо закладзеныя. Трэба аднолькава разумець, які сэнс закладваецца. Я лічу, што мы нават гэты этап не прайшлі (...) Калі ёсць аднолькавае разуменне, то тэхналагічна ўсё можна прайсці. Цяпер працуе рабочая група пад эгідай двух міністраў эканомікі. Вось яны, напэўна, сфармулююць нейкія мэты і задачы», — сказаў ён.

У адказ на такую крытыку Крэмль зрабіў свой ход. Расійскі віцэ-прэм'ер Дзмітрый Козак заявіў, што ў Маскве цану на газ для Беларусі будуць разглядаць «толькі пасля інтэграцыйнага пытання».

У 2019 годзе заканчваецца беларуска-расійскае пагадненне аб цане на газ. Па гэтым дакуменце павінна быць выпрацаваная адзіная формула, каб выйсці на падобныя цэны для Беларусі і Смаленскай вобласці Расіі. Але, як звыкла, Расія паспрабавала перавесці рэйкі на палітычныя кола. Чым зноў пацвердзіла: газ — гэта яе палітычная зброя.

Сінявокая на гэта адказала адэкватна і нахабна, заявіўшы пра планы падняць кошты на транзіт нафты праз Беларусь на 22%. «Патрабаванні аб павышэнні тарыфу на транзіт нафты праз Беларусь справядлівыя, але не да такой ступені, якая была заяўлена беларускім бокам. Не да такой ступені», — разгублена пачаў енчыць той самы Дзмітрый Козак, які шантажаваў Беларусь «газам у абмен на інтэграцыю».

Справядлівым тарыфам расійскі чыноўнік лічыць мінімальны — такі ж, як на тэрыторыі Смаленскай вобласці. Але, калі ў нас транзіт нафты на кошце на ўзроўні Смаленска, чаму кошт на газ не на тым жа ўзроўні? Лагічна ж?

Такім чынам, паразмаўляць Пуціну і Лукашэнку ёсць пра што. Сустрэча Лукашэнкі і Пуціна на Валааме была перанесеная з 11 ліпеня на 17-га. Назаўтра, 18 ліпеня, кіраўнікі павінны сустрэцца на Форуме рэгіёнаў Беларусі і Расіі.

Але наўрад ці размовы прынясуць нейкі плён. Адбудзецца тое, пра што казаў Лукашэнка: 


Фота www.tvi.ua

яны адзін аднаго выслухаюць і разыдуцца.

Усё таму, што кіраўнікі краінаў сапраўды па-рознаму разумеюць паняцце «інтэграцыя». Лукашэнка на сустрэчах з Пуціным спрабуе вырашыць пытанні тактычныя і прагматычныя. Ён будзе казаць пра цану на газ і нафту, расійскі падатковы манеўр, злы Рассельгаснагляд, забруджаны Расіяй нафтаправод «Дружба». Дый абяцанага расійскага крэдыту ў 630 мільёнаў долараў нашая краіна пакуль не дачакалася.

Пуцін, у сваю чаргу, зацікаўлены ў пытаннях стратэгічных. Уладзімір Уладзіміравіч будзе схіляць нашага правадыра да «больш шчыльнай інтэграцыі». Праўда, пакуль не зразумела, што гэта за інтэграцыя, і ці патрэбная яму Беларусь аж да ўваходжання ў склад Расіі. Лукашэнка, без сумневу, катэгарычна супраць такога сцэнару. Бо ўладу ён не аддасць нават Пуціну.

Таму кіраўнікі сустракаліся, сустракаюцца і будуць сустракацца без асаблівых вынікаў. На лёгкі шантаж Расіі ў Беларусі знойдзецца свой шантаж. Не дасць Расія крэдыт — у нас знойдуцца кітайскія грошы і еўрабонды. Не адбудзецца і «напаўненне рэальным сэнсам дамовы пра Саюзную дзяржаву» — бо пад гэтым рэальным сэнсам кіраўнікі разумеюць розныя рэчы. Пуцін, магчыма, — інкарпарацыю Беларусі ў склад Расіі. Лукашэнка — найперш танныя энергарэсурсы і фінансавую падтрымку. А гэта можна зрабіць і без інтэграцыі.

Карацей, Пуцін кажа: «Раніцай крэслы — увечары грошы». А Лукашэнка ў адказ: «Раніцай грошы — увечары крэслы». Чым гэта скончылася ў Ільфа і Пятрова, мы ведаем: бакі не дамовіліся.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Багатае жабрацтва

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Мы не думалі, што Беларусь — такая багатая краіна!» — казалі некаторыя іншаземцы падчас наведвання Еўрапейскіх гульняў. Асабліва тыя, хто здолеў злавіць таксоўку з лагатыпам гульняў і даведаўся, што для іншаземцаў яна — бясплатная. Але нашае багацце заўважнае і так.**



Фота www.gorod.lv

Не паспелі скончыцца Еўрагульні — у нас свята 3 ліпеня з танкамі і парадам. Адгрымеў парад — у нас Купалле ў Александрыі. Скончылася Купалле — усе на «Славянскі базар» у Віцебск! Падаецца, мы толькі і робім, што святкуем і радуемся жыццю — сапраўды, як самая багатая краіна ў свеце. А скончыўся «Славянскі базар» — у нас чарговае свята, ужо прафесійнае, для вайскоўцаў.

Вайскоўцы Беларусі і Расіі рыхтуюцца да вучэнняў «Шчыт Саюза — 2019», паведамляюць афіцыйныя СМІ. Прадстаўнікі ўзброеных сілаў дзвюх краін праводзяць сумесную рэкагнасцыроўку ў цэнтры баявой падрыхтоўкі Заходняй ваеннай акругі ўзброеных сілаў Расіі. У ходзе мерапрыемства рабочымі групамі з Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі будзе праведзена ўзгадненне на мясцовасці, а таксама зацвярджэнне задумы практычных дзеянняў. Акрамя таго, будзе ўзгоднены раён размяшчэння войскаў, аб'ём і парадак правядзення мерапрыемстваў тэхнічнага і тылавога забеспячэння.

Беларуска-расійскія ваенныя вучэнні «Шчыт Саюза — 2019» пройдуць увосень на тэрыторыі Расіі. Як заяўляў раней міністр абароны Беларусі Андрэй Раўкоў, яны павінны будуць прадэманстраваць эфектыўнасць рэгіянальнай групоўкі войскаў дзвюх дзяржаў. Пры гэтым ён падкрэсліў, што Расія і Беларусь нікому не пагражаюць і імкнуцца захаваць баланс сілаў і парытэт у рамках цяперашняй рэальнасці.

А тым часам грамадства і моладзь усё яшчэ ў шоку ад адмены адтэрміновак ад войска для навучання. І — чарговая спроба суіцыду. Салдат ускрыў сабе вены. Міністэрства абароны заявіла, нібыта гэты салдат «дэманстратыўна» нанёс сабе «драпіны на руках», што не ўяўляюць пагрозы для жыцця. Грозна працытавала артыкул пра наўмыснае нанясенне сабе пашкоджанняў з мэтаю адмовы несці ваенную службу. Але, па-першае, ані слоўцам не заікнулася пра тое, што малады чалавек у шпіталі, — а значыць, ні пра якія «драпіны» размова не ідзе. Па-другое: высекла само сябе, бо артыкул за «наўмыснае нанясенне пашкоджанняў» наўрад ці можа быць прыменены да «драпінаў». А значыць — інцыдэнт быў сур'ёзны.

Не «Шчыт Саюза — 2019» беларускім вайскоўцам трэба праводзіць, а «Шчыт жаўнера». Пакуль у нашым войску не будзе нармальная атмасфера, пакуль людзі не перастануць палохацца службы і «дзедаўшчыны» — ніякія вучэнні не прымусяць іх, у выпадку чаго, абараняць Радзіму. А менавіта дзеля гэтага мы ўтрымліваем войска — з усімі яго паказушнымі парадамі і вучэннямі.

А тым часам нас зноў напаткалі выдаткі — у Беларусі пачалася чарговая «бітва за ўраджай». Паводле дадзеных на 16 ліпеня, збожжавыя і зернебабовыя культуры прыбраныя з 128,4 тысячы гектараў, што складае 5,94% запланаванай плошчы. Ураджай у гэтым годзе чакаецца не самы лепшы — як заўсёды, вінавате надвор'е.

Дый у прамысловасці справы ідуць не вельмі: яшчэ адно прадпрыемства — ААТ «Рэчыцкі завод "Тэрмапласт"» — падало заяву аб прызнанні яго банкрутам. У апошнія гады прадпрыемства адчувала сур'ёзныя праблемы: па выніках 2018 года выручка ад рэалізацыі склала толькі 79 тысяч рублёў. Пры гэтым неразмеркаваныя страты перавысілі мільён рублёў. Колькасць работнікаў за апошнія сем гадоў скарацілася з 112 да 18 чалавек.

«Тэрмапласт» — гэта адно з найстарэйшых прадпрыемстваў Беларусі, у мінулым годзе адсвяткавала 80-гадовы юбілей. І яшчэ гэта — адно з тых прадпрыемстваў, якое перапрацоўвала былую ва ўжыванні поліэтыленавую плёнку і ПЭТ-тару ў тэхнічныя трубы, што выкарыстоўваюцца для пракладкі сетак гарачага водазабеспячэння і сістэмаў ацяплення. То-бок, «Тэрмапласт» працаваў на экалогію, прыцягнуўшы ў 2007 годзе інвестыцыі з Кітаю.

Падавалася б, такія прадпрыемствы варта падтрымаць. Але ж у нас грошы выдаткоўваюцца на святы, а не на абарону навакольнага асяроддзя.

А вось у Вілейцы бюджэт (каб былі грошы на святы, напэўна?) вырашылі падтрымаць незвычайным спосабам. Там проста зрабілі платным наведванне магілак на аўто! Зараз уезд на могілкі будзе каштаваць 2 рублі 55 капеек, а калі вы ІП і ўсталёўваеце помнік — то аж 51 рубель.

Улічваючы, што для ўсталёўкі помніка трэба ездзіць на месца 3–4 разы — някепская дапамога бюджэту! Дарэчы, уезд грузавога транспарту на могілках у Мінску каштуе 4 рублі.

Але ёсць і тыя, хто клапоціцца пра народ. Міністэрства аховы здароўя на сваёй старонцы ў Фэйсбуку запрасіла народ дасылаць ім інфармацыю, якія лекі людзі закупляюць за мяжой і наколькі там танней. Спецыялісты міністэрства абяцалі правесці аналіз коштаў.

Пад допісам ужо больш за 240 каментараў, што паказвае — лекі ў нашых аптэках занадта дарагія. Кажуць, такі незвычайны крок зроблены для таго, каб знізіць кошты ў нас. Але ёсць асцярога: як бы ў выніку гэтай ініцыятывы не з'явіўся новы спіс прэпаратаў, забароненых для ўвозу з-за мяжы. Бо нешта не верыцца ў тое, што нехта будзе працаваць у шкоду бізнесу.

Ну і яшчэ адна цікавая навіна. Брудную расійскую нафту адпампавалі з Беларусі датэрмінова. «11 ліпеня скончаныя ўсе аперацыі па замяшчэнні некандыцыйнай нафты ў магістральных трубаправодах і рэзервуарным парку на тэрыторыі Беларусі, 12 ліпеня а 13.00 ачышчаны нафтаправод ад мяжы Беларусі да станцыі Унеча ў Расійскай Федэрацыі», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы «Гомельтранснафта Дружба». У чэрвені канцэрн «Белнафтахім» казаў, што поўная ачыстка нафтаправода адбудзецца да сярэдзіны жніўня 2019 года.

Праўда, яшчэ раней абяцалі, што такія працы павінны прайсці і скончыцца за 5–14 дзён. Але — не здолелі.

Памер шкоды, нанесенай Беларусі, дагэтуль падлічваецца, але папярэдне гэтая сума больш за 150 мільёнаў долараў. Куды пойдуць гэтыя грошы? Зноў нешта адсвяткуем?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Зміцер Паліенка



**Пракуратура Мінска вярнула ў Заводскі раённы аддзел Следчага камітэта справу палітвязня для правядзення дадатковага папярэдняга расследавання ў адпаведнасці з артыкулам 264 КПК.**

Дакладныя прычыны, па якіх пракурор вярнуў справу следчым, пакуль не вядомыя. Згодна з пунктам 3 артыкула 264 КПК, пракурор па крымінальнай справе можа вынесці рашэнне вярнуць крымінальную справу следчаму са сваімі пісьмовымі ўказаннямі для вытворчасці дадаткова папярэдняга расследавання, а таксама для прад'яўлення новага абвінавачвання ў выпадку неабходнасці яго дапаўнення, змены на больш цяжкае або на істотна адрознае па фактычных абставінах ад першапачатковага абвінавачвання альбо для складання новай пастановы, калі складзенае па справе не адпавядае патрабаванням Кодэкса.

Зміцер Паліенка быў затрыманы 20 сакавіка па падазрэнні ў здзяйсненні асабліва злоснага хуліганства. Яго абвінавачваюць у тым, што ён распыліў газавы балончык у твар мужчыну, які зрабіў яму заўвагу за курэнне на лесвічнай пляцоўцы.

5 красавіка Паліенку было прад'яўленае абвінавачванне па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса: асабліва злоснае хуліганства (ч. 3 арт. 339 КК), апаганьванне збудавання і псаванне маёмасці (арт. 341) і распальванне сацыяльнай варожасці (ч. 1 арт. 130).

Паводле інфармацыі праваабаронцы Валянціна Стэфановіча, распальваннем іншай сацыяльнай варожасці следства лічыць распальванне варожасці ў дачыненні да міліцыі. «Міліцыя не з'яўляецца сацыяльнай групай, як не з'яўляюцца сацыяльнай групай прадстаўнікі іншых дзяржаўных органаў і ўлада ў цэлым. Такога роду кваліфікацыя — непісьменная і, акрамя таго, сведчыць пра жаданне ўладаў надаць палітычны кантэкст гэтай крымінальнай справе», — адзначае Стэфановіч.

## Аляксандр Кабанаў



**У Брэсце працягваюцца дзіўныя суды над працаўнікамі будаўніцтва акумулятарнага завода. Кампанія, якая займалася яго будаўніцтвам, падала ў суд іскі супраць двух актывістаў — Дзмітрыя Бекалюка і Дзям'яна Лепясевіча.**

Як вядома, у Брэсце актывісты ўжо не першы год пратэстуюць супраць будаўніцтва ў абласным цэнтры акумулятарнага завода. Не так даўно Генпракуратура паінфармавала аб затрыманні Віктара Лемяшэўскага, уласніка прадпрыемства.

Як паведаміў вядомы брэсцкі блогер і актывіст Аляксандр Кабанаў, 15 ліпеня пачаўся суд па іску кампаніі супраць Бекалюка і Лепясевіча, хаця самі яны ніякіх позваў не атрымлівалі. Паводле інфармацыі блогера, на першым судовым пасяджэнні акрамя прадстаўнікоў кампаніі нікога не было, але было хадайніцтва прыцягнуць на суд у якасці трэціх асоб самога Кабанава і блогера Сяргея Пятрухіна.

«У свой час з'явіўся відэаролік «Галоўны гемарой горада Брэста», і ў кампаніі палічылі, што інфармацыя з гэтага роліка «закранае іх гонар і годнасць». Хоць дакладна нічога не вядома, нас жа не было ў судзе», — кажа Кабанаў.

## Андрэй Салангін



**Дырэктар мінскага «Тарпеда» вырашыў шукаць грошы на падтрымку дзейнасці клуба ў суседняй краіне. Канкрэтна — у Маскве.**

Мінскае «Тарпеда» знаходзіцца ў стане фінансавага крызісу, які паставіў пад пытанне само існаванне каманды. «Мы штомесяц атрымлівалі фінансы за пэўныя паслугі, выстаўлялі рахункі. Жылі ад месяца да месяца. Гарантый на год ці на паўгода не было», — распавядае Салангін.

«Я паеду ў Маскву і буду сустракацца з людзьмі, якія зацікаўленыя ўзяць «Тарпеда». Мы вусна абгаварылі ўсе фінансавыя пытанні: колькі трэба, каб дайграць чэмпіянат, колькі трэба, каб пагасіць даўгі. Калі ўсё зрасцецца, то «Тарпеда» працягне гуляць у вышэйшай лізе», — працытавалі Салангіна ў праграме «Спорт-кадр» на канале «Беларусь 5».

**а Азбука паліталогіі**

# «Тыя, хто падпісваецца ў інтэрнэце»



Сяргей НІКАЛЮК

**Актуальнасць публічных развагаў адзінага палітыка (АП) на тэму незалежнасці і суверэнітэту расце літаральна на вачах. Калі ў тэксце выступлення на ўрачыстым сходзе 2 ліпеня 2018 года слова «незалежнасць» згадвалася 9 разоў, то праз год — 16!**





Свет відавочна не становіцца больш бяспечным. Але адкуль варта чакаць чарговую пагрозу? Некалькі разоў уважліва перачытваю тэкст. Пагрозы, як вядома, дзеляцца на знешнія і ўнутраныя. Пра знешнія сказана нея́к няпэўна. Цытую: «За чвэрць стагоддзя сваёй незалежнасці ва ўмовах магутнага палітычнага, інфармацыйнага, эканамічнага ціску (памятаеце, гэта зусім нядаўна было) нам удалося абараніць суверэнітэт, захаваць мір і парадак у краіне, — гэта стала нашай з вамі агульнай перамогай у найноўшай гісторыі. Перамогай без вайны, што вельмі важна».

Не ведаю, як для чытачоў, але асабіста для мяне ў прыведзенай цытаце ключавым стаў дзеяслоў «было». Я як яго пабачыў — так ад сэрца адлягло. Падумаць толькі, чвэрць стагоддзя трымацца адначасова пад уздзеяннем трох прэсаў: палітычнага, інфармацыйнага і эканамічнага! Аднак мы выстаялі! Усе гэтыя жахі з кашмарнай цяперашнасцю засталіся ў мінулым. Адразу і не згадаеш, якому яшчэ народу давялося перажыць такое.

Аднак не варта расслабляцца. Перамога над знешнім, так да канца і не апазнаным праціўнікам, не вызваляе нас ад абавязку «сачыць за тым, што адбываецца ў краіне».

Але беларусам пашанцавала. Нездарма ж будаўніцтва беларускай дзяржаўнасці пачалося з узвядзення ўладнай вертыкалі. З яе вяршыні і атрымалася заўважыць «некалькі тэмаў, якія бурна абмяркоўваюцца». І дзе б вы думалі? Ну, вядома, у інтэрнэце — у нашай вялікай «сметніцы».

Дазволю сабе яшчэ адну цытату: «І вось я апошнім часам заўважыў некалькі тэмаў, якія бурна абмяркоўваюцца. І яны, канешне ж, тычацца перш за ўсё вас. Не сялян, не працоўных, не лекараў, настаўнікаў, нашай інтэлігенцыі, якія працуюць кожны дзень. Нас — эліты, якая кіруе дзяржавай. Разгарнулася бурная палеміка: як будзем служыць у войску? Чытай — як будзем абараняць сваю зямлю, сваю Айчыну?»

Мяркую, з першага разу не кожны зможа зразумець сэнс цытаты. Яе аўтар падзяліў беларусаў на тых, «якія працуюць кожны дзень», і «нас — эліты, якая кіруе дзяржавай». Нічога арыгінальнага ў гэтым няма. Шматлікія тэорыі элітаў займаюць далёка не апошнiя месца ў гуманітарных навуках.

Але чаму пытанні «як будзем служыць у войску?» і «як будзем абараняць сваю зямлю?» датычацца, перш за ўсё, «вас», г. зн. «нас — эліты»? Ці азначае гэта, што служыць у войску будуць выключна прадстаўнікі «вас-нас-эліты», ці гаворка ідзе толькі пра тое, як будуць служыць тыя, «якія працуюць кожны дзень»?

Тут ёсць над чым паламаць галаву. Свой жа варыянт адказу я прапаную ў канцы гэтай «Азбукі паліталогіі».

### «Вас-нас-эліта»

Падчас разграбання «сметніцы» АП зрабіў адкрыццё ў сацыялогіі. Ці зможа яно прэтэндаваць на ролю аналага жамчужнага зерня з байкі Крылова — пакажа час. У цяперашні ж момант даводзіцца канстатаваць, што з адзінага і згуртаванага беларускага грамадства ўпершыню атрымалася вылучыць асобную групу, што супрацьпастаўляе сябе грамадству. Імя гэтай групы — «тыя, хто падпісаўся ў інтэрнэце».

Удзельнікі групы, якая яшчэ не паспела выразна сфарміравацца, ужо адзначыліся некалькімі дзеяннямі. У прыватнасці, патапталі ўздоўж і папярок «беднага Раўкова» (міністра абароны), уся віна якога палягала толькі ў тым, што ён не тое прапанаваў на разгляд парламента.

Важнае тлумачэнне: «тыя, хто падпісаўся ў інтэрнэце», да нас не з Марса прыляцелі і не былі таемна закінутыя з радзімы вынаходнікаў сусветнага павуціння (ЗША). З вяршыні ўладнай вертыкалі ўдалося разгледзець, што касцяк «падпісантаў» складаюць тыя, «хто, перш за ўсё, турбаваўся пра суверэнітэт і незалежнасць». Але адна справа — дбаць з дапамогай падпісання (ад жадаючых тут не адбіцца), і зусім іншае — выконваць свой патрыятычны абавязак.

«Суверэнітэт і незалежнасць — гэта самыя дарагія рэчы». АП пра гэта не стамляецца паўтараць. Што ж нам прапануюць «тыя, хто падпісваецца»? Іх прапановы зводзяцца да своеасаблівага падзелу працы. Прыводжу яго ў выкладанні АП: «Адны — рабочыя і сяляне, як звычайна, у каго наогул жа ўлады няма, — яны будуць абараняць нас, мы ім дадзім стрэльбы, і хай там паміраюць, абараняючы нас. А мы, вядома, за мяжой ці яшчэ дзесьці будзем атрымліваць адукацыю і будзем выбіраць, дзе нам жыць і працаваць, але абараняць мы не будзем, ваяваць мы не будзем».

У прыведзенай цытаце тых, хто хаваецца за займеннікамі «нас», «нам» і «мы», не варта блытаць з «вас-нас-элітамі», нягледзячы на тое, што АП надзяліў усю гэтую кампанію правам раздаваць стрэльбы. Мяркую, з нагоды раздачы стрэльбаў АП пагарачыўся. Тым не менш, ідэю наконт падзелу працы ён перадаў правільна.

**АП, разважаючы катэгорыямі мінулага, спрабуе паставіць пад ружжо ўсё мужчынскае насельніцтва краіны. Гэтым шляхам імкнуліся ісці кіраўнікі СССР. Вынік вядомы. Самая шматлікая армія ў свеце капітулявала перад жаданнем «чалавека савецкага» спажываць**

Нічога крамольнага ў гэтай ідэі няма. З часоў Полацкага княства для арганізацыі эфектыўнай абароны ўсё насельніцтва падзялялася на два саслоўі: служылае і падатнае. Прадстаўнікі першага (прафесійныя воіны) ваявалі, прадстаўнікі другога — займаліся прадукцыйнай працай і плацілі падаткі, з якіх і аплачвалася ратная праца служылага саслоўя.

Гісторыі вядомыя два выключэнні з правіла. Першае мы знаходзім сярод качавых народаў, у якіх кожны дарослы мужчына сумяшчаў выкананне воінскага абавязку з абавязкамі жывёлаводаў. Адпаведна, качэўнікі не плацілі падаткі, што не перашкаджала «вас-нас-элітам» жыць сваім элітарным жыццём, для чаго даводзілася абкладаць данінай заваяваныя народы.

Не плацілі падаткі і грамадзяне старажытнагрэчаскіх гарадоў-дзяржаў. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што кожны грамадзянін поліса сумяшчаў занятак прадукцыйнай працай з абавязкам «Радзіму бараніць». Прычым узбройваліся патрыёты за свае кроўныя грошы.

Арганізацыя жыцця згодна з прынцыпам «два ў адным» стварала праблемы для антычных аматараў вертыкаляў улады, а такіх хапала і да нашай эры. Але кандыдатам у старажытнагрэчаскія «бацькі» даводзілася мець справу з узброеным народам, што, натуральна, не спрыяла падтрыманню стабільнасці, якая разумеецца як магчымасць знаходзіцца ва ўладзе неабмежаваную колькасць тэрмінаў.

### Дзвюм волям у адным бярлогу не ўжыцца

Якія ж з неаднаразова апрабаваных у гісторыі варыянтаў прапануе сёння АП? Старажытнагрэчаскі варыянт адпадае адразу. Ён патрабуе дэмакратыі. Айчынны вопыт падліку галасоў такой форме палітычнага ладу наўрад ці б паспрыяў. Да таго ж у Афінах класічнага перыяду (V стагоддзе да нашай эры) большасць службовых асоб і чальцы калегіяльных органаў кіравання выбіраліся паводле лёсавання.

Старажытныя грэкі лічылі, што такім чынам выяўляецца воля багоў. Але так званая «моцная дзяржава» ў Беларусі ёсць механізм рэалізацыі волі аднаго канкрэтнага чалавека. Дзвюм волям, падобна двум мядзведзям у адным бярлогу, не ўжыцца. Любая няпэўнасць, непазбежная пры лёсаванні, разбурыць стабільнасць. Да такой жа жалю вартай сітуацыі прывядуць і выбары, калі іх вынікі не будуць прадказальныя. Таму выбары ў Беларусі — гэта іспыт. Яго здае ўладная вертыкаль камісіі, ўладнай вертыкаллю і сфарміраванай.

Пра пагрозу нявызначанасці, якую спараджаюць «тыя, хто падпісаўся ў інтэрнэце», і папярэджваў АП 2 ліпеня на ўрачыстым сходзе да Дня Незалежнасці. Але панікаваць не трэба. І тым, «якія працуюць кожны дзень», і шчаслівачыкам з ліку «вас-нас-эліты» АП даходліва растлумачыў: «Гэта мая праблема. Я яе буду вырашаць. Я апошнім часам крыху адцягнуўся ад звычайных спраў (ведаеце чаму, уся краіна гэтай падзеяй жыла, я таксама быў недалёка)».

Вось як бывае! 7 верасня 2017 года ўдзельнікі пашыранага пасяджэння Выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта разглядалі II Еўрапейскія гульні як падзею, «якая павінна надаць магутны ідэалагічны імпульс нашаму грамадству, яшчэ больш кансалідаваць нацыю».

Работа па падрыхтоўцы гульняў закіпела. У яе ўцягнуліся мільёны. Натуральна, і АП увесь час «быў недалёка». На нейкае імгненне склалася ўражанне, што ідэалагічны кантроль у краіне аслабеў, чым і паспрабавалі скарыстацца «тыя, хто падпісваўся ў інтэрнэце». Яны сталі нахабнымі да такой ступені, што пачалі адкрыта абмяркоўваць прапанаваны «бедным Раўковым» законапраект.

***

Час падвесці рысу. І ў ХХІ стагоддзі неабходнасць абараняць дзяржаўную незалежнасць і суверэнітэт ніхто не адмяняў. Але адкуль сёння зыходзяць пагрозы? Ад правільнага адказу на гэтае пытанне залежыць многае, калі не ўсё.

АП, што разважае катэгорыямі мінулага, спрабуе паставіць пад ружжо ўсё мужчынскае насельніцтва краіны. Гэтым жа шляхам імкнуліся ісці бацькі-заснавальнікі СССР. Вынік вядомы. Самая шматлікая армія ў свеце практычна без адзінага стрэлу капітулявала перад масавым жаданнем «чалавека савецкага» спажываць. Крылатым і іншым ракетам не было чаго супрацьпаставіць супермаркетам і Макдональдсам.

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

6 ЭРА ЭЛЕКТРАТРАНСПАРТУ



7 НОВЫЯ ПДР: ШТО АБУРАЕ КІРОЎЦАЎ?

ШТО ЧАКАЦЬ АД НОВЫХ ПДР ТЫМ, КАМУ ІХ ВЫКОНВАЦЬ?

# Беларускі легкавік: нагуляцца ў машынкі

Ігар КАРНЕЙ

**Маючы магчымасць арганізаваць у Беларусі вытворчасць практычна любога аўтамабільнага брэнду, улады нечакана спыніліся на кітайскім вытворцы Geely. Чым матываваны такі выбар, і ці стаў асіміляваны «кітаец» беларускім народным аўтамабілем?**



Фота www.AutoLupresident.gov.by

Беларуска-кітайскае СЗАТ «БелДжы», што выпускае аўтамабілі пад маркай Geely, створанае ў 2011 годзе. Праз два гады на часовых плошчах барысаўскага завода «Аўтагідраўзмацняльнік» сабралі першы легкавік, а пазалетась паміж Барысавам і Жодзіна ў прысутнасці Аляксандра Лукашэнкі ўрачыста адкрылі новы завод дробнавузлавой зборкі. Для рэалізацыі праекту быў атрыманы кітайскі крэдыт на 160 мільёнаў долараў.

## Хітрыкі зборкі

Мадэльную лінейку складаюць флагманскія красоверы Geely Atlas NL 3 і NL 4, а таксама кампактны седан FE3. Кіраўніцтва завода запэўнівае, што бяспека адпавядае вышэйшым стандартам Volvo. Праектная магутнасць на першым этапе была закладзеная ў аб'ёме 60 тысяч аўтамабіляў штогод, на другім — 120 тысяч. Не выключалася, што можна штампаваць нават 250 тысяч «беларускіх кітайцаў» пры ўмове дастатковай ёмістасці расійскага рынку.

Зрэшты, амбітныя задачы далёкія ад выканання: згодна з лічбамі Міністэрства прамысловасці, летась з канвеера агулам сышло крыху больш за 10 тысяч машын. 65% з іх набылі прыватныя асобы, 35% — арганізацыі. Большая частка сапраўды пастаўляецца ў Расію — дзве трціны, астатнія аўто рэалізуюцца беларускім спажыўцам. Сёлета аб'ёмы вытворчасці плануецца павялічыць удвая, але гэта ўсё роўна далёка ад запланаваных паказнікаў.

Эксперты выказваюць сумнеў, што знешняму рынку, не кажучы пра ўнутраны, патрэбна такая колькасць беларуска-кітайскіх аўтамабіляў. Запланаваныя на пачатковым этапе 60 тысяч машын — гэта ў 10 разоў больш, чым усе дылеры «БелДжы» дагэтуль прадавалі на беларускім і расійскім рынках.

Паводле звестак Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі, у часы, калі Расія спраўна здымала нафтавыя дывідэнды, ёмістасць унутранага рынку прагназавалася на ўзроўні 3 мільёнаў аўтамабіляў штогод. Аднак цяпер гэта лічба скарэктаваная больш як напалову — 1 мільён 400 тысяч. З 50 да 30 тысяч машын зменены прагнозы ў дачыненні Беларусі.

Да апошняга стаяла праблема лакалізацыі вытворчасці, каб выйсці на рынак Еўразійскага эканамічнага саюза. Нормы прадугледжвалі дасягненне паказніку ў 50% да пачатку 2018 года. Гэта азначае, што палова запчастак мусіць вырабляцца ў Беларусі. Да акрэсленага тэрміну зрабіць гэтага не ўдалося, але Лукашэнка выбіў прэферэнцыі ў аб'ёме 30%.

Фактычна і далей пад выглядам камплектных частак на барысаўскі канвеер працягвалі пастаўляцца цэлыя элементы кузава, што дазваляла пазбегнуць выплаты мыта як за новы аўтамабіль, але на справе азначала кантрабанду. Іншымі словамі, былі наладжаны рээкспарт новых кітайскіх аўто, сабраных у Беларусі, без сплаты абавязковага мыта. Але сёлета чыноўнікі адрапартавалі, што лакалізацыя, нарэшце, набліжаецца да запаветнай паловы.

## Даражэй за аналагі вядомых брэндаў

Кошты на беларускіх «кітайцаў» вока ды гаманец не цешаць. Хаця банкі і завабліваюць пакупнікоў больш выгаднымі ўмовамі, чым дылерскія сеткі іншых міжнародных вытворцаў. Спачатку 10% ад цэнніка, а потым — набыць у лізінг ці ўзяць крэдыт на 7 гадоў. Але ў любым разе сума не малая.

Кошт красовера Geely Atlas вагаецца ад 17000 (за базавую версію) да 25000 долараў (за прэміум-камплектацыю). Для параўнання, іншы красовер кітайскага паходжання Lifan X60, імпартаваны з Расіі, каштуе ўдвая меней. Новы такі аўтамабіль абыдзецца ў крыху больш як 13000 долараў і прапануецца ў дзвюх версіях — з механічнай і аўтаматычнай трансмісіяй. Не нашмат даражэйшы новы Suzuki Vitara — у афіцыйных дылераў красовер стартуе ад 16000 долараў.

Найбольш блізкі да Geely Atlas характарыстыкамі і самы распаўсюджаны на беларускім рынку — карэйскі Kia Sportage. У мясцовых дылераў ён каштуе ў сярэднім 19 000 долараў. Новая Mazda CX-5 пры значна вышэйшым узроўні камфорту знаходзіцца ў тым самым коштавым дыяпазоне: базавая пярэднепрывадная Drive 2.0 каштуе блізу 24000 долараў. Канкурэнцыю здольная скласці і папулярная Toyota RAV4. Базавая версія ў беларускіх дылераў каштуе прыкладна 24500 долараў — столькі ж, колькі прэміум-версія Geely Atlas.

У бюджэтнай катэгорыі маем адразу два ўседарожнікі ад японскага вытворцы Nissan: цана на Qashqai пачынаецца ад 18500 долараў, а Terrano яшчэ таннейшы — ад 14200 долараў. Але самым даступным «паркетнікам» застаецца Renault Duster. Цэннік на гэтае аўто з канвеера пачынаецца ад 12000 долараў.

Такім чынам, вытворцам Geely Atlas у Беларусі трэба знаходзіць сур'ёзныя аргументы, каб пераканаць патэнцыйных пакупнікоў, што слушна ўкласці 25000 долараў у мясцовага «кітайца», а не ў «Мазду» ці «Таёту».

Кіраўнік Асацыяцыі кіроўцаў і ўладальнікаў аўтатранспарту Алег Маркевіч лічыць, што ў дадзеным выпадку суадносіны кошту і якасці ад пачатку выклікаюць вялікі сумнеў: «Перадусім — гэта сэрвіс. А сэрвісныя цэнтры не гатовыя, іх няма ў неабходнай колькасці. Машына — гэта сямейная рэч, якая патрэбная практычна кожны дзень. І калі яна раптам зламаецца, то, прабачце, які сэнс купляць ката ў мяху, каб потым укладаць немалыя грошы ў рамонт? Як на маю думку, беларусы проста маральна не гатовыя перасесці на «кітайцаў», да гэтага паездзіўшы на «еўрапейцах» ці «японцах».

## Няўдалы досвед аўтарэвалюцыі

Беларусь мае вопыт вырабу замежных аўто, у масе сваёй няўдалы. Перадусім гэта тычыцца аўтамабільнага завода «Юнісан» у Абчаку пад Мінскам, за якім замацавалася рэпутацыя «гіблага месца». На пачатку 2000-х гадоў напаткала фіяска спроба збіраць пад маркай Ford мікрааўтобусы Transit і легкавікі Escort — неўзабаве амерыканцаў пазбавілі прэферэнцый, і яны сышлі з рынку.

Вартым жалю называюць намер адаптаваць пад беларускія кліматычныя рэаліі ад пачатку маральна састарэлы іранскі Samand — замест «тысяч і тысяч» шрубакрутная вытворчасць выдавала па некалькі сотняў аўто на год, дый тыя за сезон ператвараліся ў іржавы металалом.

Была спроба наладзіць выпуск малатанажных грузавікоў на колавай базе KIA K2500, аднак новаспечаны Unicom так нікуды і не даехаў. Спрабавалі «акучваць» Абчак і кітайцы: Zotye Z300 прэзентавалі, але масавай вытворчасці так і не зладзілі. На магутнасцях прадпрыемства павінны былі запусціць у серыйную вытворчасць мадэляў Opel Mokka і Cadillac — зборка пераехала з Расіі, дзе з-за санкцый праца замежных карпарацый стала немагчымай. Абяцалася, што сабекошт вытворчасці будзе ніжэйшы, чым у Расіі, дзякуючы таннейшай працоўнай сіле і падатковым прэферэнцыям. Зрэшты, на намерах усё і скончылася.

Эканаміст Барыс Жаліба, з аднаго боку, вітае спробы інвестараў атабарыцца на беларускім рынку, а з іншага — не мае вялікага аптымізму што да эфектыўнасці падобных праектаў. «Каб быць рэнтабельным, трэба набіраць даволі вялікую магутнасць у колькасці выпуску — дзясяткі і нават сотні тысяч легкавікоў, — кажа адмыслоўца. — У Беларусі ж выпускалі па некалькі соцень ці тысяч, і тое гэта Расіі не падабалася, бо там было шмат сваіх вытворцаў. Расійская эканоміка перажывае крызіс, раз-пораз узнікае ідэя пераносу вытворчасці ў Беларусь. Калі інвестар ідзе, то навошта адмаўляць? Але ўсё зноў «закальцоўваецца». Вытворчасць у тысячу легкавікоў будзе ў лепшым выпадку маларэнтабельная, у горшым — наагул непрыбытковая. Бо дзе прадаваць? Толькі ў Расіі».

У першай палове 1990-х гадоў конкурс на праект першага нацыянальнага легкавіка абвясціў паспяховы на той час бізнесовец Андрэй Клімаў. Праца наблізілася да рэалізацыі, але прадпрымальнік і парламентарый трапіў у няласку і сеў у турму. А цяпер, на яго думку, час няспрыяльны, бо шалёная канкурэнцыя: «Раней, каб набыць 600-ты «Мерседэс», трэба было накіраваць замову, доўга чакаць, з дылерам утрэсці пытанні. А цяпер людзі не ведаюць, як пазбавіцца ад сваіх «Мерседэсаў». Вось вам і маркетынг сённяшняга дня».

Як паказвае і ранейшая, і цяперашняя практыка, абсалютная большасць аўтамабіляў, якія сыходзяць з канвеераў у Барысаве ці Абчаку, рэалізуюцца дзякуючы адміністрацыйнаму рэсурсу — папросту навязваюцца дзяржаўным установам, сілавым структурам, Дзяржаўтаінспекцыі. Добраахвотныя пакупнікі ў абсалютнай меншасці, бо за такія ж грошы можна набыць новы ці нядоўга ўжываны аналаг ад сусветна вядомых брэндаў.

# Эра электратранспарту

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**Электра- і гіраскутары, монаколы і электрасамакаты гэтым летам сталі звыклым відовішчам на вуліцах беларускіх гарадоў. А хутка яны стануць нормай і ў новых Правілах дарожнага руху. ДАІ прапанавала афіцыйна называць такі індывідуальны мінітранспарт «сродкамі персанальнай мабільнасці» і хоча абавязаць іх уладальнікаў перасоўвацца па веладарожках, а калі яны адсутнічаюць — то тады па ходніках.**

Перавагі навамодных прыстасаванняў для перамяшчэння ў гарадской прасторы відавочныя: экалагічнасць, эканамічнасць і лёгкасць. Той самы электрасамакат можна скласці, узяць у руку і зайсці ў краму ці грамадскі транспарт. Паліва ён не патрабуе — толькі не забывайцеся падсілкоўваць акумулятар. Мода на электрычны транспарт прыйшла да нас з Захаду, але большасць мадэляў завозяцца з Усходу — з Кітая.

## Качу куды хачу

Кітайскія вытворцы дадалі істотны аргумент «за» валоданне такімі апаратамі — даступнасць. Нават не надта заможныя прасунутыя беларусы цалкам сабе гатовыя аддаць якіх 500–600 рублёў за самакат, каб без залішніх фізічных намаганняў хутка дабрацца куды трэба і пры гэтым не ламаць галаву з абслугоўваннем і захаваннем транспарту. Гэта як ровар, толькі для «лянотных» офісных працаўнікоў.

Пра папулярнасць электратранспарту сведчыць тое, што гэтым летам у Мінску імкліва набірае абароты кікшэрынг — пракат электрасамакатаў. Іх можна пабачыць у самых нечаканых месцах — і на веладарожцы, і пад пад'ездам шматпавярховіка. Такія самакаты «бесстанцыйныя» — пасля заканчэння часу пракату іх можна пакінуць у любым пункце сталіцы. Але кожны з іх абсталяваны GPS-антэнай, якая перадае інфармацыю пра месцазнаходжанне самаката фірме, якая яго здае ў арэнду. Гэтая з'ява аказалася настолькі дзіўнай для некаторых мінчукоў, што за два месяцы працы сэрвісу ўжо амаль з дзясятак чалавек не ўтрымаліся, каб не сцягнуць дахаты нібыта нічыйны самакат.



Фота www.elektragreenbelarus.info

На электрасамакаце на адной зарадцы батарэі можна праехаць 20 кіламетраў. У межах Мінску, напрыклад, гэтага цалкам дастаткова, каб з любога спальнага раёна дабрацца на працу ў цэнтр горада. Простыя мадэлі звычайна не здольныя развіваць хуткасць больш за 25 кіламетраў на гадзіну. Аднак з пункту гледжання пешаходаў, гэта ўжо досыць хутка, і ў той самы час для перасоўвання па ходніках ці веладарожцы — бяспечна.



Фота www.tut.by

Сярод відаў электратранспарту ёсць і больш сур'ёзныя — электраскутары. Некаторыя з іх могуць развіць хуткасць да 50 кіламетраў на гадзіну і нават больш, а адной зарадкі акумулятара хопіць і на 70 кіламетраў адлегласці. Гэта ўжо пасуе і для паездак за горадам. Кошт — каля 3000 рублёў. Але з такімі тэхнічнымі характарыстыкамі электраскутары не выглядаюць бяспечнымі, як ровары, таму адно з прапанаваных новаўвядзенняў у Правілах дарожнага руху — прыраўняць іх да мапедаў. Гэта азначае, што трэба будзе атрымаць правы на кіраванне катэгорыі AM і рэгістраваць гэты транспартны сродак у ДАІ.

Нагадаем, што, згодна з ПДР, мапедысты маюць права ездзіць па дарогах. І ДАІ, дарэчы, разглядае магчымасць дазволіць электраскутарам рухацца па палосах для маршрутных транспартных сродкаў, каб такім чынам стымуляваць развіццё экалагічных сродкаў перасоўвання.

## Наш адказ «Тэслу»

Самы круты транспарт не на паліве — электрамабілі. У Беларусі ўлады нават наважыліся наладзіць уласную іх вытворчасць. Пракаціўшыся неяк на «Тэсле», Аляксандр Лукашэнка сфармуляваў для навукоўцаў вельмі амбіцыйную задачу: «Я не думаю, што вы беларускую «Тэслу» вынайдзеце, калі казаць пра легкавыя аўтамабілі. Але ён павінен быць блізкі да гэтага, каб чалавек па прынцыпе кошт—якасць мог набыць гэты аўтамабіль». Гаворка ідзе пра Geely Electro, якую будуць збіраць на заводзе ў Абчаку.



Па словах старшыні прэзідыуму Акадэміі навук Беларусі Уладзіміра Гусакова, беларускія навукоўцы працуюць над цэлай лінейкай электратранспарту — ровар, скутар, матацыкл і гэтак далей. «Ужо зрабілі электрамінівэн, невялікую электрычную камунальную машыну і грузавік», — дзяліўся дасягненнямі галоўны акадэмік. Беларускі электракар пакуль можа праехаць на адной зарадцы батарэі 250 кіламетраў. Але навукоўцы паабяцалі: «Зробім і 500». Лічба ў нас культавая — чакаем.

Цяпер ужо створана айчынная графенавая батарэя-назапашвальнік для электракараў, праводзяцца выпрабаванні. Акумулятар і акумулятарныя ячэйкі з'яўляюцца самым дарагім кампанентам электрамабіля. Таму, каб знізіць кошт электрамабіляў, нават «Тэсла» занялася ўласнымі сакрэтнымі распрацоўкамі батарэяў.

Па вялікім рахунку, папулярнасць электрамабіля наўпрост залежыць ад запасу ходу на адной зарадцы батарэі. У электрамабіля Tesla Model S, напрыклад, ён складае 500 кіламетраў. Адна швейцарская кампанія нядаўна заявіла, што распрацоўвае батарэю, на якой электракары змогуць пераадольваць адлегласць у 1000 кіламетраў і болей.

Другая глабальная мэта — каб батарэі служылі гэтак жа доўга, як і аўтамабілі. Напрыклад, Volkswagen гарантуе працу сваіх акумулятараў на працягу 8 гадоў або прабегу на 160 тысяч кіламетраў. З часам ёмістасць батарэі змяншаецца, і для ўладальніка аўто выйсце адно — набываць новы дарагі акумулятар.

## Непаслядоўнае заахвочванне

У Нарвегіі ўжо амаль палову аўтапарка складаюць электрамабілі. А першы электрамабіль у Беларусі з'явіўся толькі шэсць гадоў таму: ужываны Nissan Leaf прывезла кампанія «А-100». Тады разам з дастаўкай і мытам аўто абышлося ў 43 тысячы долараў.

Сёння ў Беларусі зарэгістравана пад 200 электрамабіляў. Пачала пашырацца сетка станцый сілкавання. «Беларуснафта» абяцае, што да канца 2019 года колькасць такіх станцый на АЗС перасягне 150. Але яны ёсць не толькі ў сетцы «Беларуснафты». У Мінску іх можна пабачыць каля банкаў, на паркінгах некаторых гандлёвых цэнтраў.

Год таму ў Беларусі ўвялі адмысловы тарыф на электраэнергію, якой карыстаюцца электразарадныя станцыі. Ён складае 0,15693 рубля (без ПДВ) за 1 кВт/г. Гэта на 48% ніжэй за агульны тарыф для арганізацый, якія працуюць у сферы паслуг.

Свае электрааўтамабілі кіроўцы пакуль што сілкуюць бясплатна — істотная заахвочвальная льгота. Але «Беларуснафта» ўжо анансавала ўвядзенне платы — 30 капеек за кілават. Калі гэта адбудзецца, то заладаваць электрамабіль Tesla Model S абыдзецца каля 30 рублёў. Паколькі адной батарэі хапае кіламетраў на 500, то выдаткі складуць 6 рублёў на 100 кіламетраў. Канешне, эканомней, чым ездзіць на паліве. Але гэта ўжо не задарма!

Дарэчы, калі маецца прыватны дом, можна сілкавацца ад звычайнай разеткі, але ў такім выпадку трэба быць вельмі цярплівым: гэта досыць доўгі працэс, але ад вечара да раніцы аўто заладуецца.

Утрымліваць электракар не надта дорага. Расходнікаў тут амаль няма. Маторны алей і фільтр, свечкі запальвання, антыфрыз, рамень ГРМ — усё гэта электрамабілю не трэба. Зрэшты, галоўны чыннік стрымлівання для беларусаў — вялікі кошт самой такой сучаснай машыны, а таксама ўвозная мытная пошліна (17%), ПДВ (20%) і ўтылізацыйны збор.

Пры пэўных захадах па пашырэнні такога віду транспарту з боку дзяржавы, паводле аптымістычнай ацэнкі экспертаў, да 2025 года ў Беларусі можа быць зарэгістравана ўжо больш за 30 тысячаў электрамабіляў. А пакуль праз мінусы карыстання такім аўто без належнай сучаснай інфраструктуры і вялізныя ўвозныя выдаткі, ахвотных перасесці на экалагічныя электрамабілі ў Беларусі няшмат.

Дарэчы, мытныя пошліны былі абнуленыя для юрыдычных асобаў да 1 верасня 2017 года, таму асноўная частка электрамабіляў была завезена ў той час. І лепшае, што можа зрабіць для стымулявання гэтага сегмента аўтарынка дзяржава зараз, — зноў абнуліць пошліны. Бо нулявых тарыфаў на электраэнергію, якія неўзабаве могуць і знікнуць, і яшчэ аднаго прывілею — пры праходжанні тэхагляду ўладальнікі электрамабіляў вызваленыя ад аплаты дарожнага збору — усё ж недастаткова.

Да канца 2019 года ў продаж могуць нарэшце паступіць і тры мадэлі беларускіх электракараў. Цяпер яны выпрабоўваюцца. Тэхнічныя характарыстыкі трымаюцца ў сакрэце. Але ёсць вялікія сумневы, што па суадносінах кошту і запасу ходу гэтыя аўто пераўзыдуць лідараў сусветнай аўтаіндустрыі.



# Новыя ПДР: што абурае кіроўцаў?

Павел КІРЫЛАЎ

**ДАІ паабяцала ўлічыць некаторыя прапановы, што з'явіліся падчас травеньскага грамадскага абмеркавання зменаў у Правілы дарожнага руху. Але не датычна самых нашумелых з іх. Як, напрыклад, «правіла дзвюх палосаў» ці «спыненне аўто для праверкі дакументаў». Што ж чакаць ад новых ПДР тым, каму іх выконваць? І што больш за ўсё абурыла кіроўцаў у намерах Дзяржаўтаінспекцыі?**

Адразу скажам, што пакуль у ДАІ не называюць тэрмінаў, калі Правілы дарожнага руху са зменамі пачнуць дзейнічаць. Невядома, і калі ўвядуць ужо распрацаваную бальную штрафную сістэму за парушэнні ПДР: сутнасць яе ў тым, што, калі цягам года неаднаразова і злосна парушыш Правілы дарожнага руху і набярэш за гэта пэўную колькасць штрафных пунктаў, то пазбавішся правоў кіроўцы.

### Інтрыга з дарожным зборам

Гэтаксама падвешанай застаецца і сітуацыя вакол спагнання дарожнага збору (або транспартнага падатку), з новым механізмам якога зацікаўленыя дзяржаўныя ведамствы аніяк не могуць вызначыцца.

Праект распрацаванага Мінфінам прэзідэнцкага ўказа «Аб плацяжах за ўдзел у дарожным руху» абмяркоўваўся ўзімку. Сутнасцю яго было адвязванне аплаты дарожнага збору ад праходжання тэхагляду: цяпер сума залежыць ад таго, чый аўтамабіль — юрыдычнай або фізічнай асобы, а таксама ад года выпуску і вагі машыны.

У выніку прыкладна траціна беларускіх кіроўцаў вырашылі не плаціць гэты транспартны падатак і, адпаведна, не праходзіць тэхагляд. Штраф за такое парушэнне ПДР значна таннейшы, чым выдаткі на збор.

Мінфін прапанаваў устанавіць памесячную стаўку ў залежнасці ад віду і масы транспартнага сродку. За легкавік да 1,5 тоны — 0,25 базавай велічыні, ад 1,5 да 2,5 тоны — 0,5 б.в., ад 2 да 3 тонаў — 0,67 б.в., болей за 3 тоны — 0,92 б.в. За матацыкл — 0,17 базавай велічыні. «Базавая» цяпер складае 25,5 рубля. Мінімум трэба аплаціць за месяц, максімум можна за два гады наперад. На вялікі перыяд — зніжкі.

Кантралявацца аплата ў такім разе будзе праз фота- і відэафіксацыю рэгістрацыйных знакаў аўтамабіляў з наступнай праверкай па адмысловай базе. Такая самая сістэма маніторынгу будзе наладжаная і наконт таго, ці пройдзены тэхагляд.

Анансавалася, што запрацаваць яна павінна з 1 ліпеня. Ужо лета, але ўлады дагэтуль не вызначаліся нават з механізмам спагнання. Напрыканцы чэрвеня міністр фінансаў Максім Ермаловіч паведаміў, што вывучаюцца два варыянты: памесячная аплата і ўключэнне збору ў кошт паліва. Гледзячы па ўсім, будзе абраны першы варыянт, бо міністр выказаў думку, што ўключаны ў кошт паліва збор эканамічна пацягне за сабой рост коштаў тавараў і паслугаў.




Між тым, пазіцыя большасці кіроўцаў падчас грамадскага абмеркавання ў студзені была якраз за простае і зразумелае ўключэнне дарожнага збору ў кошт паліва. Тым болей народ даўмеецца падманваць фота- і відэафіксатары.

### Тры спрэчныя пункты

Уручную ж масава аўтамабілі на наяўнасць сертыфіката пра тэхагляд не праверыш. Хаця ў хуткім часе, паводле меркаваных змяненняў у ПДР, супрацоўнікі ДАІ змогуць прасцей і часцей спыняць машыны. Гэтае новаўвядзенне, што больш за ўсё абурыла кіроўцаў. ДАІ будзе дазволена спыняць аўтамабілі для праверкі дакументаў. Цяпер жа сітуацыя такая: кіроўца павінен спыніцца на патрабаванне супрацоўніка ДАІ, але падставы патрабавання канкрэтна не прапісаныя. Таму нярэдка ўзнікаюць спрэчкі пасля справядлівага пытання кіроўцы да інспектара пра прычыну спынення. У Правілах дарожнага руху дапішуць, што інспектары маюць права спыняць ваша аўто «ў тым ліку і для праверкі дакументаў».

Падчас грамадскага абмеркавання новых ПДР кіроўцы расцанілі гэта як парушэнне правоў чалавека, параўнаўшы з адвольным пашпартным кантролем мінакоў на вуліцах. Іншая пазіцыя палягае ў тым, што гэта дапаможа выяўляць бяспраўнікаў і п'яных, а спыніцца на хвіліну нескладана, калі ў цябе ўсё ў парадку — і пройдзены той самы тэхагляд. Яго спраўдзяць па нумарах аўто, бо адпаведны сертыфікат у новых ПДР у шэрагу дакументаў, якія трэба паказваць інспектарам ДАІ, не фігуруе і павінен быць наогул скасаваны.

Дарэчы, цяпер распрацоўваецца праграма «Мабільны інспектар», якая дазволіць па нумары аўтамабіля праверыць наяўнасць у яго ўладальніка медычнай даведкі, пасведчання кіроўцы, пройдзенага тэхагляду. Пры спыненні ж аўто ў выніку сканавання правоў кіроўцы інспектар ДАІ атрымае праз адмысловую базу інфармацыю пра ўсе астатнія дакументы.

Другі рэзанансны пункт у новых ПДР — «правіла дзвюх палосаў». Гэта тычыцца ўзаемаадносінаў на дарозе кіроўцаў і пешаходаў — калі першыя павінны прапускаць другіх на пераходах? Перавага пешаходу будзе лічыцца прадстаўленай, «калі адлегласць паміж транспартным сродкам і пешаходам у момант перасячэння транспартным сродкам траекторыі руху пешахода склала дзве паласы руху (адну паласу і трамвайныя рэйкі, адну паласу і раздзяляльную паласу або зону), і больш».

Раней гэта была рэкамендацыя, але здаралася вельмі шмат спрэчак і вольных трактаванняў з боку ДАІ незалежна ад адлегласці паміж аўтамабілем і пешаходам на дарозе. Бо за «непрапусканне» ўважалася сітуацыя, калі пешаходу давялося змяніць хуткасць ці кірунак руху.

Некаторыя кіроўцы крытыкуюць «правіла дзвюх палосаў» і выразна заканадаўча прапісанае: маўляў, не заўсёды і дзве палосы маюцца паміж кіроўцам і пешаходам, што замарудзіць дарожны рух. Але галоўнае — цяпер ёсць дакладная фармулёўка, якую не павернеш, як дышла, абы спагнаць штраф.

Трэці момант, які актыўна абмяркоўваўся, — правіла перасячэння дарогі раварыстамі.

**У Правілах дарожнага руху дапішуць, што інспектары маюць права спыняць ваша аўто «ў тым ліку і для праверкі дакументаў». Падчас абмеркавання кіроўцы расцанілі гэта як парушэнне правоў чалавека, параўнаўшы з адвольным пашпартным кантролем**

Спешвацца яны павінны будуць толькі на нерэгуляваных пешаходных пераходах. На рэгуляваных (святлафорных) дастаткова будзе знізіць перад імі хуткасць і перасякаць дарогу са шпаркасцю пешахода. Кіроўцы супраць: прагназуюць павелічэнне аварыйнасці з удзелам ровараў, бо перакананыя, што іх уладальнікі не стануць трымацца пешаходнай хуткасці 3–7 кіламетраў на гадзіну і будуць з'яўляцца на дарозе раптоўна — на той самы жоўты сігнал святлафора.

Але агулам у ПДР запішуць такі прынцып: «Пешаходы, раварысты маюць перавагу перад транспартнымі сродкамі, але не павінны неабгрунтавана замінаць іх руху».

### Кіроўцы хочуць, як у Еўропе

Шмат хто з кіроўцаў абураецца, што новыя ПДР абавяжуць іх мець у машыне медычную даведку. Але гэта чутка, якая паўстала праз няўважлівае чытанне праекта зменаў. Гаворка вядзецца пра неабходнасць мець і паказваць інспектару ДАІ даведку аб прыдатнасці да кіравання аўто, толькі калі маеш правы, выдадзеныя ў Беларусі ці на тэрыторыі былых савецкіх рэспублік, і на якіх не ўказаныя тэрміны дзеяння. А вось неабходнасць мець медычную даведку для праходжання тэхагляду — адменяць.

З іншых навэльных пунктаў у праекце зменаў у Правілах дарожнага руху адзначым істотныя. Трэба будзе паказаць інспектару ДАІ дамову аб набыцці вашага аўто, калі вы купілі яго, скажам, у Расіі, і яно яшчэ не зарэгістраванае ў Беларусі, а перабывае на так званых «транзітных» нумарах.

Будзе забаронена вазіць п'яных пасажыраў ці пад наркотыкамі на матацыклах і мапедах, ездзіць на адным коле, а таксама не трымаючыся за стырно і не трымаючы ногі на педалях.

Участкі дарог, на якіх ажыццяўляецца кантроль за выкананнем устаноўленай хуткасці руху з выкарыстаннем тэхнічных сродкаў, што працуюць у аўтаматычным рэжыме, павінны будуць пазначацца адпаведнымі знакамі. У горадзе яны папярэдзяць кіроўцаў за 50–100 метраў да камеры, а па-за горадам — за 150–300 метраў.

З'явяцца новыя знакі. Напрыклад, «Зона абмежавання максімальнай хуткасці руху». Такія знакі павінны быць усталяваныя ў раёнах са шчыльнай жылой забудовай і інтэнсіўным пешаходным перасоўваннем. Гэта дазволіць стварыць бяспечны рэжым хуткасці, не ўзводзячы пры гэтым тыя самыя «ляжачыя паліцэйскія». І ў такіх зонах, якія дастаткова часта арганізуюцца ў Заходняй Еўропе, змогуць ездзіць ля правага краю праезнай часткі раварысты.

Кіроўцы, што бралі ўдзел у грамадскім абмеркаванні новых ПДР, у сваю чаргу, прапанавалі такія «еўрапейскія» змяненні: знізіць максімальную хуткасць руху ў населеных пунктах да 50 кіламетра на гадзіну, а падчас руху і ў светлы час сутак уключаць блізкае святло фараў. Паглядзім, ці ўлічаць гэта распрацоўшчыкі новых ПДР.

# Як ашчаджаць пры набыцці аўто?

Павел КІРЫЛАЎ

**Без аўтамабіля пры сучасным рытме жыцця складана. І калі ў горадзе альтэрнатывамі могуць быць таксоўкі і каршэрынг (кароткачасовая арэнда), то ёсць жа яшчэ лецішчы ды вандроўкі. Як сёння набыць сродак перасоўвання, каб ён не стаў раскошай і праблемай? Прапануем актуальныя заканадаўчыя і эканамічныя лайфхакі.**


Фота www.m.autostat.ru

Калі вы надумалі прыгнаць самі ці праз пасярэдніка аўто з-за мяжы, то звярніце ўвагу на ўказ №140, які пачаў дзейнічаць сёлета ў красавіку. Цяпер дзяржава кампенсуе людзям з інваліднасцю 1 і 2 групаў, а таксама шматдзетным сем'ям палову ад мытных пошлінаў на аўтамабіль, які ўвозіцца.

Як гэты дакумент працуе? Першы варыянт атрымання льготы: пры ўвозе машыны паказваецe на мытні адпаведныя пасведчанні, што пацвярджаюць інваліднасць ці шматдзетнасць, і плаціце 50% ад мытаў. Другі варыянт: калі дакументы не паказалі падчас дэкларавання на мяжы, іх можна прадставіць мытнікам цягам года пасля афармлення, напісаць заяву на зварот — і атрымаць палову ад сплачаных мытаў.

### «Перагоны» і «вешалкі»

Паводле натарыяльна афармленай даверанасці ажыццявіць за шматдзетных бацькоў ці людзей з інваліднасцю пакупку і мытныя працэдуры можа любая асоба. Увезці ў Беларусь аўтамабіль паводле гэтага ўказу можна раз на год. Прычым скарыстацца такой магчымасцю можа ў адной сям'і як шматдзетны бацька, так і маці.

Кошт пытання, выгады? За аўтамабілі ўзростам 3–5 гадоў, на якія ўстаноўленыя нізкія тарыфы мытныя тарыфы, з аб'ёмам рухавіка 1500 кубічных сантыметраў 100% мытаў складаюць 2550 еўра, адпаведна, 50% — гэта 1275 еўра. Пры аб'ёме рухавіка 1800 кубічных сантыметраў мыты такія — 4500 і 2250 еўра. Калі рухавік на 2000 кубічных сантыметраў, то 5400 і 2700 адпаведна. Тут ужо выгада, як бачым, вельмі істотная.

Паводле ўказа, ніякіх абмежаванняў па карыстанні і распараджэнні на ўвезенае такім чынам аўто няма. Таму пасля апрылюднівання дакумента адразу загаварылі пра тое, што «перагоны» здабылі кантактныя базы асобаў з інваліднасцю і шматдзетных сем'яў і пачалі іх абтэлефаноўваць з прапановамі скарыстацца за пэўную суму іх правам на льготны ўвоз аўто.

Вось што распавёў «Новаму Часу» адзін з былых перагоншчыкаў аўтамабіляў: «Наўрад ці гэта масавая з'ява ці стане такой. Не думаю, што «перагонам» цікавыя такія «вешалкі», як іх называюць. Па-першае, калі я б ганяў машыны і цяпер, то спакойна знайшоў бы тых самых людзей з інваліднасцю сярод знаёмых ці сваякоў». І сапраўды, паводле статыстыкі, у Беларусі такіх асобаў каля паўмільёна.

«Звязвацца з незнаёмымі людзьмі, купляць і афармляць на іх аўтамабіль — таксама вялікая рызыка. Дый іх потым падатковая можа спытаць, калі аўто дарагое, адкуль грошы ўзятыя», — працягвае наш суразмоўца. Дарэчы, улады ўжо паабяцалі наладзіць прававаахоўны кантроль за імавернымі падазронымі схемамі паводле ўказу №140.

**Пакупніцкі попыт у Беларусі трывала мяняецца на карысць набыцця новых бюджэтных аўтамабіляў. Перадусім дзякуючы развіццю адмысловых фінансавых інструментаў: крэдыту і лізінгу. У 2018 годзе беларусы набылі амаль 53 тысячы новых машын, з іх прыкладна 49 тысяч — легкавікі**


Фота www.kiabrest.by

### Бюджэтнік на крэдыт

Малаверагодна, што ўказ спародзіць бум па прыгоне аўтамабіляў з-за мяжы, бо для многіх людзей з абмежаванымі магчымасцямі і шматдзетных сем'яў гэта нават з ільготай непад'ёмная пакупка, калі яна тут і адразу. Наогул, пакупніцкі попыт у Беларусі трывала мяняецца на карысць набыцця новых бюджэтных аўтамабіляў. Перадусім дзякуючы развіццю адмысловых фінансавых інструментаў: крэдыту і лізінгу. У 2018 годзе, паводле дадзеных Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі, беларусы набылі амаль 53 тысячы новых машын, з іх прыкладна 49 тысяч — легкавікі, астатнія — камерцыйныя. У параўнанні з 2017 годам рост продажаў склаў 54%! Дарэчы, 90% новых аўто, набытых беларусамі, — машыны расійскай зборкі. А дзясятка самых папулярных марак выглядае так: «Рэно», «Лада», «Фольксваген», «Джылі», «Шкода», «Нісан», «Кіа», «Хёндэ», «ГАЗ» і «Форд».

Акурат гэтыя брэнды прапануюць так званыя «бюджэтнікі» — дастаткова даступныя, асабліва з дапамогай розных крэдытных праграмаў, аўтамабілі коштам да 12–13 тысяч долараў. Натуральна, што самае прыемнае ў такіх машынах — цана, тым не меней кіроўцы ўсё адно наракаюць на іх мінусы: дрэнную шумаізаляцыю, танныя аздабляльныя матэрыялы ўнутры салона, слабае тэхнічнае начынне (напрыклад, можа не быць кандыцыянеру), раннюю карозію кузава, а таксама, што пераважна гэта седаны з бензінавымі рухавікамі. Ну і тых, хто ўсё жыццё ездзіў на былых ва ўжытку аўтамабілях, вельмі расстройвае ў новых машынах (бюджэтныя яны ці не) іх перапродажы кошт ужо праз некалькі гадоў. Ён значна падае ў параўнанні з коштам набыцця — пытанне з эканамічна-псіхалагічнай плашчыні.

Крэдыт можна ўзяць і на патрыманае аўто. Калі ваша сям'я вырашыла набыць машыну такім чынам, то будзьце пільнымі. Не, усё будзе законна, але галоўнае — памятаць, што бюракратычна-калькулятарны д'ябал хаваецца за рознымі маркетынгавымі завабамі ў дамоўных дэталях, а банкі сабе ў страту працаваць дакладна не будуць. Канешне, лепей не браць крэдыт, а пазычыць, калі маецца такая магчымасць, беспрацэнтна. А калі не, то ўсё адно варта мець як мага больш грошай на першапачатковы ўнёсак, каб выплатныя працэнты далей налічаліся з як мага меншай рэштакавай сумы.

Ну і імкніцеся накапляць нешта, апроч, выплаты крэдыту, каб пагасіць яго датэрмінова. Амаль ва ўсіх банках цяпер гэта можна зрабіць без штрафных санкцыяў. Так вы зменшыце крэдытную пераплату. Гэта важна яшчэ і таму, што на набытую з дапамогай крэдыту машыну вам давядзецца афармляць дастаткова дарагую страхоўку КАСКА, якая павінна дзейнічаць на ўвесь перыяд аўтакрэдытавання. І паколькі, апроч працэнтных ставак, у прапанован банкаў будуць разнастайныя дадатковыя плацяжы (афармленне дамовы і гэтак далей), лепей адразу падсумаваць усё, што вам давядзецца выплаціць. І прыняць рашэнне на карысць прапановы з меншай пераплатай звыш кошту аўто.

### Аўтамахлярства па-старому і па-новаму

А цяпер пра круцялі з машынамі і крэдытамі. Апошнімі месяцамі актывізаваліся некалькі махлярскіх схемаў, ад якіх могуць пацярпець як прадаўцы, так і пакупнікі легкавікоў.

Тым, хто прадае аўто, варта асцерагацца старой і прымітыўнай (але дзейснай) махлярскай схемы ад уяўных пакупнікоў. Прадаўцу тэлефануюць (звычайна не з беларускіх нумароў), зацікаўлена распытваюць пра аўто і ў выніку бяруць нават не гледзячы. Маўляў, прыедуць жыўцом неўзабаве, а пакуль прапануюць пералічыць задатак, каб замацаваць дамоўленасць. Задаволенага верагоднай дамовай прадаўца просяць дасласць дадзеныя банкаўскай карткі. Калі рэквізіты атрыманыя, ідзе новае тэлефанаванне: уяўны пакупнік кажа, што нешта грошы не праходзяць, і просіць паведаміць яму карткавы трохлічбавы CVC-код (код бяспекі). Калі вы яго далі, то развітайцеся са сваімі грашыма на картцы! І нават ведаючы толькі нумар вашай карткі і тэрмін дзеяння, а таксама імя-прозвішча, махляр можа рабіць пакупкі ў некаторых інтэрнэт-крамах.

Партал ABW.by правёў расследаванне афёры, якая апошнім часам прыйшла да нас з Расіі і ахвярай якой могуць стаць пакупнікі аўтамабіляў. Прычым датычная яе ёсць пытанні да банкаў і ДАІ. Гаворка пра схему, калі ў продажы з'яўляюцца машыны, што знаходзяцца ў закладзе ў банку.

На продаж выстаўляюцца бюджэтныя аўтамабілі без прабегу. Прадаўцы не кажуць пакупнікам, што яны ў банкаўскім закладзе, то-бок, набытыя ў крэдыт. Яны адразу ж прадаюцца дзеля атрымання наяўных грошай. Раней так прадаваліся аўто, закладзеныя ў расійскіх банках. Пасля выяўлення шэрагу такіх выпадкаў беларусы сталі правяраць гісторыю аўто з краіны-суседкі на сайце тамтэйшай Федэральнай натарыяльнай палаты. Адразу занатуйце: у Беларусі таксама маецца база закладаваў маёмасці — reestr-zalogov.by. Даступнасць яе платная: каля 17 рублёў за тры запыты цягам месяца.

Цяпер жа аўтасалонам на камісію сталі прапаноўваць машыны гэтага і мінулага гадоў выпуску, набытыя на крэдыт аднаго з беларускіх банкаў. Прычым аўто было знятае з уліку адразу пасля пакупкі і рэгістрацыі ў ДАІ, а ўзятыя на 10 гадоў крэдыт за яго, натуральна, не выплачаны. Схема ясная, так? Бяруць крэдыт, купляюць за яго аўто, затым хочуць прадаць машыну за наяўныя, крэдыт не выплачваецца, а проста перавешваецца на новага ўладальніка.

Праблему вырашыць проста: ДАІ і банкам трэба папросту мець агульную базу дадзеных па закладных аўтамабілях. Лепш абмінуць такія схемы загадзя, чым потым праводзіць следства па махлярстве, марнуючы час, грошы і нервы людзей.



Фота www.cont.ws

# Малдоўскі кансэнсус

Алег НОВІКАЎ

**Напэўна, упершыню за апошнія 25 гадоў у малдоўскай палітыцы пануе геапалітычны кансэнсус. Усё дзякуючы былому ўсёмагутнаму алігарху Уладу Плахатнюку, якога ў чэрвені Еўропа, ЗША і Расія разам зрынулі. Ці доўга ўтрымаецца ў краіне такі дзіўны мір? Пра магчымыя сцэнары развіцця сітуацыі ў інтэрв'ю «Новаму Часу» распавядае малдоўскі грамадскі актывіст Эдуард Шчупак.**

***— Напэўна, самая вялікая загадка нядаўняй малдоўскай антыалігархічнай рэвалюцыі — куды падзеўся сам Плахатнюк?***

— На гэтае пытанне дакладнага адказу няма. Аднак усё выглядае так, што ён знаходзіцца недзе на Захадзе. Часцей за ўсё называюць Жэневу, Лондан і нават Фларыду. На карысць версіі, што Плахатнюк падаўся ў заходнім кірунку, кажуць пэўныя акалічнасці чэрвеньскага перавароту. Улад Плахатнюк, які, па-сутнасці, кантраляваў усю вертыкаль, раптам адмовіўся ад барацьбы пасля 15-хвіліннай размовы з паслом ЗША. Відавочна, што алігарху ў якасці кампенсацыі ад спробаў ухапіцца за ўладу былі дадзеныя нейкія гарантыі асабістай бяспекі. Таму лагічна, што былога ўладара Малдовы трэба шукаць недзе на Захадзе.

***— Гэта азначае, што Плахатнюк, якога падазраюць у мностве злачынстваў, не будзе прыцягнуты да адказнасці?***

— Не думаю, што Плахатнюк забяспечыў сабе спакойную будучыню. Прынамсі, ужо зараз супраць яго распачатыя тры крымінальныя справы. І гэта не фінал. Чальцы былога атачэння Плахатнюка, баючыся трапіць за краты, актыўна даносяць адзін на аднаго і на свайго былога боса. Так, з'явіліся падставы падазраваць экс-алігарха ў міжнародным гандлі наркотыкамі. Наўрад нехта з заходніх палітыкаў рызыкне надаць такой асобе прытулак.

З іншага боку, магчыма, на лаву падсудных ён трапіць не так хутка. Структуры Плахатнюка могуць спатрэбіцца Захаду для гульні супраць Масквы. Ад пазіцыі фракцыі яго партыі дэмакратаў залежыць, як будзе выглядаць фармат ураду, які, паводле нашай Канстытуцыі, мае больш паўнамоцтваў за прэзідэнта. Пакуль урад складаецца з прамаскоўскіх сацыялістаў прэзідэнта Ігара Дадона і праеўрапейскага тандэму палітыкаў Маі Санду і Андрэя Нэстасэ, якія могуць аддаць перавагу кааліцыі з дэмакратамі.

***— Як эмацыйна малдаване ўспрынялі навіну пра крах рэжыму Плахатнюка, які дэ-факта быў некаранаваным каралём Малдовы?***

— Сапраўды, гэта было вялікім сюрпрызам. Падавалася, што ў нейкі час Плахатнюк прыдумаў бліскучую камбінацыю, якая забяспечвае яму на доўгі час гарантаваны кантроль над краінай. Ён прасунуў на пазіцыю прамаскоўскага прэзідэнта Ігара Дадона, і палохаў Захад расійскай пагрозай. Пэўны час гэта працавала.

Аднак, як часта бывае, чалавек, доўга застаючыся пры ўладзе, губляе пачуццё рэальнасці. Калі пратэжэ Плахатнюка летась прайграў на выбарах сталічнага мэра, алігарх (прынамсі, так распавядаюць сведкі) без кансультацый з партнёрамі, пад цiскамі эмоцый загадаў кішэнным суддзям адмяніць вынікі галасавання. Для Брусэля гэта быў рубікон — дзяжурны транш фінансавай дапамогі з боку ЕС быў замарожаны. Аднак усё роўна не верылася, што пачаўся адлік апошніх дзён алігархічнай дыктатуры. Плахатнюк кантраляваў суды, міністэрствы, у тым ліку сілавыя. Мог заўжды за кошт грошай мабілізаваць людзей на плошчу. Аднак прадбачыць дамову паміж такімі антаганістамі, як Захад і Масква, яму не ўдалося.

***— У падзеях апошняга часу практычна не свяціліся партыі, якія выступаюць за інтэграцыю Малдовы ў склад Румыніі, хаця яшчэ год таму, падчас святкаванняў сотай гадавіны румынскай анексіі Малдовы, гэты план усур'ёз абмяркоўваўся. Няўжо ў Бухарэсце адмовіліся ад праекту Вялікай Румыніі?***

— Румынія падтрымлівала і, напэўна, будзе падтрымліваць прарумынскія сілы ў Малдове. Аднак не падобна на тое, што нехта ў Бухарэсце сапраўды гатовы заключаць Малдову ў гарачыя абдымкі. Еўрасаюз, сябрам якога з'яўляецца Румынія, ніколі не дасць згоды на перагляд існуючых межаў. Пасля гэтага крытыка Пуціна за Крым страціць нейкі сэнс. Не кажучы пра тое, што Румыніі як адной з самых бедных краін ЕС, гэта проста не пад сілу эканамічна. Бухарэсцкія палітыкі за кошт абяцанняў аб'яднання з Малдовай папросту намагаюцца прыцягнуць галасы малдаван — уладальнікаў румынскіх пашпартоў.

***— У кантэксце мірнага пакту паміж Захадам і Масквой шмат кажуць пра магчымую федэралізацыю краіны. Больш за тое, мяркуюць, што вяртанне Прыднястроўя на правах аўтаномнай адміністратыўнай адзінкі ў склад Малдовы павінна выглядаць як рэпетыцыя сцэнару вырашэння праблемы Данбасу.***

— Пытанні такога ўзроўню, калі і будуць вырашацца, то на больш высокім узроўні. Калі Захад і Масква знойдуць кансэнсус па Прыднястроўі, то малдоўскіх палітыкаў проста паставяць перад фактам. Дарэчы, незразумела, якія палітыкі будуць на той час. Справа ў тым, днямі Плахатнюк выклаў у сеціва кампрамат на Дадона — запіс красавіцкай сустрэчы, на якой прэзідэнт просіць прафінансаваць сваіх сацыялістаў з разлікамі прыкладна 700 тысяч долараў на месяц. Сваю просьбу ён аргументуе таксама і тым, што Масква адмовіла яму. Думаецца, гэта відэа ўразіла не толькі шараговых сацыялістаў, якія такіх велізарных сумаў грошай у жыцці не бачылі, аднак і Крэмль. Цяпер скандал, развязкай якога можа быць нават імпічмент Дадона або забарона дзейнасці сацыялістаў, толькі набірае ход.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Пабачыць іншапланецян або памерці

У Дональда Трампа, падаецца, новыя праблемы. Гэтым разам яго дастаюць аматары тэорыі пра існаванне іншапланецян. Больш за 260 тысяч амерыканцаў падтрымалі ў Facebook заклік узяць штурмам так званую «Зону 51» — ваенную базу на поўдні штата Невада, мэта функцыянавання якой для публікі і цяпер не вядомая. Надзвычайная сакрэтнасць, устаноўленая на базе, зрабіла яе цэнтральным складнікам уфалагічных канцэпцый накont неапазнаных лятаючых аб'ектаў (НЛА), якія, быццам, даследуюцца на гэтым аб'екце. Не дзіўна, што аматары лятаючых талерак даўно мараць пабачыць, што знаходзіцца ў «Зоне-51». А паколькі Пентагон пастаянна пасылаў іх падалей, з'явілася ідэя штурмаваць базу, якую падзяляюць больш за 260 тысяч чалавек. Хаця прыдумалі гэты заклік жартаўнікі, аматары НЛА настроеныя вельмі сур'ёзна. «Мы павінны пабачыць іншапланецян або памерці», — піша адзін з жадаючых атакаваць базу. Ужо прызначаная дата і час штурму — 20 верасня а 15-й гадзіне. Пры гэтым аматары НЛА лічаць, што з пачаткам штурму іншапланецяне, якіх гвалтоўна ўтрымліваюць на базе, таксама пачнуць бунт. Пакуль улады не каментуюць будучую акцыю па вызваленні іншапланецян.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Хінкалі маглі стаць пельменямі

Ёсць такая партыя — партыя «Камуністы Расіі». І гэтыя самыя камуністы выступілі супраць знявагі Расіі, якую, як вядома, цяпер прыніжае ўсё грузінскае. Менавіта таму Яраслаў Сідараў — лідар КР, заклікаў не спыняцца на байкоце грузінскіх курортаў і забароне авіяцыйных перавозак. Палітык нагадаў, што ці не ў кожным буйным расійскім горадзе маецца хінкальня, якая, маўляў, таксама зневажае краіну. У сувязі з гэтым «Камуністы Расіі» звярнуліся ў адпаведны дэпартамент ураду Расіі з патрабаваннем перайменаваць усе хінкальні ў пельменныя. Навіна спадабалася публіцы. У рунэце стартаваў флэшмоб, удзельнікі якога раяць не спыняцца на хінкалі. Прапануецца ў патрыятычных мэтах называць хачапуры — пышкамі, а «Баржомі» — проста «Мінеральная вада». Віны «Хванчкара» або «Кіндзмараулі» ахрысціць «Пладовае віно». Нарэшце, песню «Суліко» назваць «Алёнушка» і спяваць выключна пад акампанемент балалайкі. Флэшмоб скончыўся пасля таго, як Пуцін заклікаў адмовіцца ад антыгрузінскіх санкцый. Аднак, магчыма, гэтыя напрацоўкі яшчэ спатрэбяцца.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Забарона на сафары

Брытанскае выданне «Daily Mirror» і група мясцовых палітыкаў і артыстаў пачалі кампанію за новы закон. Паводле законапраекту, які падпісалі 166 дэпутатаў, падданым Яе Вялікасці пад пагрозай крымінальнай адказнасці будзе забаронена паляваць на афрыканскіх жывёлаў. Мяркуецца, што будзе забаронены ўвоз на Альбіён сувеніраў, якія робяцца з забітых жывёлаў, а таксама іх скураў. Ініцыятары кажуць не толькі пра тое, што цэлыя віды могуць знікнуць у тым ліку дзякуючы паляванню. Ёсць думка, што пакуль брытанцы будуць паляваць у Афрыцы, паміж Лонданам і афрыканскай грамадой немагчымы нармальны дыялог. Замест палявання «Daily Mirror» прапануе турыстам, якія наведваюць Афрыку, новую забаву. Цяпер турысты атрымалі магчымасць максімальна блізка падысці да жывёлы і зрабіць з ёю сэлфі. У новай формы турызму ёсць першыя фанаты. У Паўднёвай Афрыцы нейкая пара сфатаграфавала пацалунак на фоне льва. Цяперашні брытанскі міністр аховы прыроды Вялікабрытаніі падтрымаў ідэю забароны палявання на афрыканскіх жывёлаў, аднак да прызначэння новага прэм'ера наўрад ці справа пачне рухацца.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Мацюкайцеся на здароўе!

Адпаведны камітэт украінскай Вярхоўнай Рады вырашыў не дапускаць на разгляд дэпутатаў скандальны законапраект пра «дэмацюкізацыю», які прапанавала Вольга Багамолец — доктарка, кіраўніца медыцынскай службы на Майдане. Багамолец мяркуе, што «дэмацюкізацыя» дазволіць стварыць здаровую атмасферу ў грамадстве. Прапанова рэанімавала старую спрэчку паміж лінгвістамі накont таго, ці існуе ўкраінская нецэнзурная лексіка. Некаторыя кажуць, што ўкраінскія нецэнзурныя словы выключна запазычаныя з рускай мовы. Іх апаненты ў адказ згадваюць вельмі вульгарны па змесце казацкі ліст да турэцкага султана 1676 года. Гэтым разам да лінгвістаў далучыліся і палітыкі. Самую рэзанансную заяву зрабіла Ульяна Супрун, якая цяпер адказвае за медыцыну. Супрун, якая, дарэчы, лічыцца нацыяналісткай, заявіла, што мацюкі дапамагаюць пазбегнуць інфарктаў. Аднак самую цікавую думку агучыў Пётр Парашэнка. Ён раскрытыкаваў Вольгу Багамолец, паколькі забарона мацюкоў не дазволіць украінцам публічна напяваць вядомы матыў «Пуцін — ...ло! Ла-ла-ла-ла». Так ці інакш, ідэя «дэмацюкізацыі» не прайшла. У тым ліку таму, што Вольга Багамолец патрабавала, каб урад апублікаваў на старонках урадавай газеты спіс словаў і выразаў, якія трапляюць пад забарону.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# «Нам гэто усё кажацца сном»



Алесь КІРКЕВІЧ

**Хто раскажа праўду пра трагічны лёс нашых землякоў з Заходняй Беларусі, якія сталі ахвярамі дэпартацыяў 1940 года на поўнач СССР, у «лядовае пекла»? Пісьменнікі, рэжысёры, гісторыкі?.. Хай кожны распавядзе сваю гісторыю, чым больш згадак — тым лепей. Мы ж звернемся толькі да аднаго ліста звычайнай малапісьменнай сялянкі з-пад Падароску, датаванага 17 красавіка 1940 года.**



**Смерць каталіцкай манахіні на спецпасяленні.** Фота Antique Photos Forum




**Фрагмент карты Анежскага раёна часоў Сталіна**

Ліст захоўваецца ў прыватным архіве аднаго з гродзенскіх краязнаўцаў. Нават канверту не засталося — адно аркушык паперы, спісаны дробным почыркам на беларуска-польскай трасянцы. Адрасаваны ён землякам і кумам аўтаркі — Сямёну Міхайлавічу Глебіку (у лісце — «кум», «кумок») ды яго жонцы. Імя «кумушкі», на жаль, нам не вядомае.

Звернемся найперш да абставінаў, у якіх ліст быў напісаны. У 1940 годзе былі праведзены тры аперацыі па высяленні розных групаў насельніцтва з новадалучаных да СССР тэрыторыяў Заходняй Беларусі ды Украіны: 10 лютага, 13 красавіка ды 29 чэрвеня. Высяленне праходзіла за адзін дзень — «па-стаханаўску». Пагрузка людзей у чыгуначныя вагоны і сам шлях займалі больш часу: у дарозе эшалоны знаходзіліся каля 2–4 тыдняў, а пасля ахвяраў часцяком чакаў яшчэ пераезд да месцаў рассялення. За тры этапы дэпартацыяў першай паловы 1940 года было выселена прыкладна 275 тысяч былых польскіх грамадзян.

## «Усе прыяцелі сталі ворагамі. За што — то і самі не знаем»

Дамо ж слова аўтарцы ліста Стэфанідзе Аляксандраўне Бакач (арыгінальную арфаграфію мы пастараліся захаваць):

*«Міленька і Даражэнка Кумушка! Шмат часу прайшло са дня нашага пабачаньня, і здаецца ня месяцы, а цэлыя гады ужо мінулі на чужой старане. Часта сядавілася Вам пісаць, але голас душы кажа не, дык і сьоньня пішу і баюся, каб ня памяшаць Вашаму счастліваму жыцю, калі і так, то шчаранька прашу выбачьце, бо мы сені ні свабодныя граждане Савецкага Саюза, а безправныя, нам здаецца усе нашы шчырыя прыяцелі сталі ворагамі. І за што — то і самі не знаем. Той дзень Вялікага сьвята 17-га, калі наша любімая Чырвоная армія перайшла нашу усходнюю граніцу і нясла нам усім працоўным вызвалене ад польскіх паноў і капіталістаў, наша счасьце, наша быццё, наша сьветлае будучыня, наша радасць у сьветлае і шчасліваe жыццё…»*

Мы ўжо наўрад ці даведаемся, наколькі шчырыя словы Стэфаніды Аляксандраўны (1895 года нараджэння) пра «радасць і шчасце» з нагоды «вызваленчага» паходу Чырвонай Арміі ў 1939 годзе. Разам з мужам яна была высланая з вёскі Нізяны (сёння ў Падароскім сельсавеце Ваўкавыскага раёна) у першую хвалю дэпартацыі, 10 лютага 1940 года, калі ахвярамі сталі «асаднікі і леснікі».

Муж пані Стэфаніды, Аляксандр Іосіфавіч Бакач (1885 года нараджэння), мясцовы ўраджэнец, мог быць да 1939 года акурат леснікам, бо асаднікаў дасылалі зазвычай з Цэнтральнай Польшчы. У любым выпадку, «радасці і шчасця», але выключна ў савецкім разуменні, дэпартаваным давялося зведаць ужо ў паўночных раёнах неабсяжнай імперыі.

## «Старшый лейтенант, такі харошы чалавек»

*«Кумушка мілая, — ідзецца далей у лісце. — Я калі выбіралася з дому дык цешылася і сьмеялася і хуценка усё складала бо мала часу дано было на гэты выбар, усяго 2 гадзіны, я рада была што мы едзем у другую област, і думала, можа гэта усіх перасэлюць, чулася вельмі добра, нас атправляу старшый лейтенант, такі харошы чалавек. Тош ён са мною так няньчыуся як здзіцём малым, памагау мне усё складаць і тое вазміце і тое палажыце я можа і шмат чаго не узялаб каб ня такой харошый чалавек. Савецкія людзі усе очень і очэнь хорошыя, только адно недобра — сала ні кусочка, хлеба ні крошкі, ні крупы, ні мукі, нічога с сабой не узялі, кабан у хляве застауся. Нічога не шкадую, ні кутка сваго ні жывого, нічога. Няхай было бы так хлеб і вада абы быць свабодным гражданінам».*

Куды ж дапамагаў збірацца сям'і лесніка таварыш лейтэнант, такі «харошы чалавек»? Пасёлак Тушылава, пазначаны ў лісце, знаходзіцца ў Анежскім раёне Архангельскай вобласці. Даўным-даўно там жылі лапары, а з XVI стагоддзя — манахі з мужчынскага Багаяўленскага Кажаезерскага манастыра ды сяляне з навакольных вёсак, што належалі манастыру. Увосень 1918-га манастыр быў разрабаваны, іераманах забіты, манахі разбегліся. На месцы моцнай гаспадаркі спачатку была створаная камуна, але ў хуткім часе ў руках новых гаспадароў яна канчаткова збяднела. Тады «мудрае кіраўніцтва» ў Маскве і вырашыла падымаць бедныя раёны з невыносным кліматам за кошт дэпартаваных сялянаў.

## Тушылава — пасёлак выжыўшых

На пачатку 1940 года ў Архангельскую вобласць пачалі прыбываць першыя партыі дэпартаваных. Іх планавалася выкарыстаць у сістэме нарыхтоўкі лесу прадпрыемстваў НарКамЛеса СССР, з якім была адмысловая дамова ў НКУС. Чэкісты фактычна здавалі ў рабства людзей лесанарыхтоўшчыкам за 10% ад прыбытку. Грошы на пабудову элементарнага жытла на «краі свету» Масквой былі выдаткаваныя, аднак будаваць ніхто нічога не спяшаўся: НарКамЛеса наўпрост заткнуў імі дзіркі ў бюджэце альбо раскраў. Таму ссыльных прывозілі на вузлавыя станцыі, дзе людзі чакалі невядома чаго: ані баракаў, ані фронту працаў падрыхтавана не было.

Рашэнне знайшлося ў адпаведнасці з логікай часу. Кантынгент падзялілі на групы па 20 сем'яў. На групу выдаваліся 4 двуручныя пілы, 8 сякераў і 2 напільнікі для заточкі. Маўляў, працуйце, і паралельна будуйцеся! Чаму так мала інструменту? Разлік быў дакладным: з улікам доўгай суровай зімы і смяротнасці ссыльных. Чэкісты згружалі ў снег буржуйкі, па два камплекты працоўных робаў на сям'ю, ежу па нормах утрымання зняволеных, падпісвалі акт аб перадачы «спецкантынгенту» з трэстам, ды абяцалі вярнуцца праз месяц. Калі праз месяц кантынгент быў жывы — добра. Як не — завозіўся новы.

Прыкладна так і ўзнік пасёлак Тушылава на Кожвозеры. Гэта — пасёлак выжыўшых, да якіх дадалося мясцовае насельніцтва — з сялянаў, што некалі жылі на манастырскіх землях, ды з такіх самых раскулачаных, але ранейшых хваляў, з розных куткоў СССР. Сляды пасёлку ў выглядзе закінутых баракаў ды рэштак мясцовых могілак можна было адшукаць яшчэ ў 1987 годзе.

## «Грахоу мы за сабою нечуям»

*«Я усётакі думаю некалі угледзімся, — працягвае аўтарка ліста, — Ня ужош такі ніколі прауды не дачакаемся і будзем зауша насіць на сабе маральную цяжасьць — не я моцна веру што разбяруцца і наша шчырая любов да усяго Савецкага народа да Партыі і да Нашага Мудрага і любімага, Вялікага Сталіна, нас апраўдая. Даражэнькі Кумок! Калі у Вас хоць адна іскра той пашаны да нас яшчэ тлее як раней, і Вы нас добра ведалі і ведаеце якія мы ворагі Савецкай уласці дык пагаварыце скім знаяце і прашлеце нам што трэба зрабіць. Мы тут на сваём месцы сто процентово выконваем чэстно сваі абавязкі як і дома заусёды выконвалі. А можа […] што калі сказаў дык плёткі только — а грахоу мы за сабою нечуям через нас ніхто ніколі не пастрадаў. Нам гэто усё кажецца сном што сталося з намі…»*

На жаль, не вядома, чым займаўся ў 1940 годзе «кумок» — Сямён Міхайлавіч Глебік, адзін з адрасатаў ліста. Вядома, што да 1939-га яго сям'я пражывала ў маёнтку Кабылякі — сёння гэта аграгарадок Матвееўцы Ізабелінскага сельсавету, непадалёк ад Нізянаў. Аўтарка ліста, імаверна, была хроснай маці дзяцей Глебікаў Яўгеніі і Мікалая, якія таксама згадваюцца ў лісце. Магчыма, бацька сямейства Глебікаў з прыходам Саветаў займеў нейкую пасаду, таму кума і звярнулася да яго па дапамогу: каб з кім трэба паразмаўляў і напісаў, што рабіць.

Адсюль жа, магчыма, і шчымлівая, ледзьве не псіхапатычная дваістасць думкі ў лісце. З аднаго боку, пра добрых савецкіх людзей і асабіста таварыша лейтэнанта, з іншага — пра тое, што нават кавалку хлеба з сабой узяць не далі. З аднаго боку — прызнанні ў любові да ўсяго савецкага ды асабіста да таварыша Сталіна, з іншага — ***«Нам гэто усё кажацца сном, што сталося з намі».*** Дзве рэальнасці: што можна пісаць, і што нельга, як павінна быць, і як ёсць.

## «Ціхо сьнег ляжыць ночью марозы птушачок не чутно»

Згадваюцца ў лісце паміж словам і іншыя сасланыя. Напрыклад, Іосіф Галамбеўскі, які жыў з сям'ёй Бакачаў у адным пакоі. Вядома, што Іосіф Галамбеўскі (1902 года нараджэння) жыў у Міхайлаве пад Ізабелінам і быў сасланы разам з двума сынамі 14 ды 16 гадоў (Здзіслаў і Чэслаў). У Тушылава Галамбеўскія прыбылі разам з Бакачамі.

Заканчваецца ліст Стэфаніды Аляксандраўны наіўна-лірычнымі і адначасна страшнымі замалёўкамі прыроды:

***«У Вас вясна птушачкі ужо сьпеваюць, а [тут] ціхо сьнег ляжыць ночью марозы птушачок не чутно жаваранкі кажуць беленькія я то не бачыла дамашней пціцы не увідіш, суровы север. Нам цяжко будзе прывыкаць кругом лес глухой дзікій і баракі нашыя с одной стараны озеро велікае. Бывайце здаровенькія цалуем вас моцна моцна. Правет знаёмым. Адрас наш: Архангельская область Онежскій район Кожо. Озазерское Поч.отделенія посёлок Тушилово. Цалую Кольку наймацней. С.А. Бакач».***

Стэфаніда Аляксандраўна Бакач, як і сусед па пакоі Іосіф Галамбеўскі з сынамі, была вызваленая са спецпасялення па амністыі 10.09.1941 года. Пашчасціла. Яе муж, Аляксандр Бакач, не дажыў да амністыі — памёр 8 ліпеня 1940 года.

## Канец пасёлка і Паклонны Крыж

Паводле статыстыкі, у 1940 годзе ў Архангельскую вобласць чэкісты прывезлі 40000 «палякаў» — выхадцаў з Заходняй Беларусі і Украіны. З 1946 па 1953 год, атрымаўшы права выезду ў Польскую Народную Рэспубліку, ім скарысталіся 5800 чалавек. Раней у розныя раёны Украіны і Стаўраполля былі выселеныя яшчэ 1000 чалавек. Атрымаўшы пашпарт (без статусу ссыльных) у Архангельскай вобласці засталіся яшчэ 3000 чалавек. На пачатку 2000-х гадоў палякамі ў Архангельскай вобласці назвалі сябе 1430 чалавек. Паводле грубых разлікаў, выжыў тут адно кожны чацвёрты.

Ужо ў 1954 годзе Кожпасёлак быў прызнаны неперспектыўным і ліквідаваны, нешматлікія яго насельнікі — пераселеныя ў больш цывілізаваныя куткі Саюза. На момант развалу СССР на яго месцы быў толькі ляснічы кардон. На Лопскай паўвыспе, дзе некалі стаяў разбураны бальшавікамі манастыр, у другой палове 1990-х гадоў зноў з'явілася абіцель манахаў. Там жа, сярод бяскрайніх лясоў ды маўклівых камянёў, з нагоды адраджэння манастыра быў усталяваны вялікі Паклонны Крыж.





Фота www.nashgrunwald.by

# Перамога, што ўз'яднала ліцвінаў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У адзінаццаты раз 20 і 21 ліпеня ў музеі народных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі» пройдзе фестываль сярэднявечнай культуры «Наш Грунвальд». Пра рыцарства ў ВКЛ і цяпер, рэканструкцыю і адметнасці сёлетняга свята «НЧ» пагутарыў з адным з вядоўцаў леташняга фэсту Юрыем Усціновічам.**

Юры Усціновіч з 1994 года пачаў займацца тым, што тады называў рэканструкцыяй эпохі Сярэднявечча. Цяпер ён больш абачліва называе сябе стылізатарам. Бо рэканструкцыя — гэта вельмі дарагое, працаёмкае і тэхналагічнае складанае задавальненне.

— Іначай — гэта прафанацыя, — адзначае Юры. — Напрыклад, даспехі: для вырабу кірасы (элемент даспехаў, які абараняе спіну і грудзі рыцара. — НЧ.) метал павінен расплюшчвацца. А цяпер іх робяць з пракатнага ліста жалеза — і гэта ўжо не зусім рэканструкцыя.

Юры быў удзельнікам і кіраўніком аднаго з першых у Мінску рэканструктарскіх клубаў «Калюмны», потым заснаваў і кіраваў клубам «Жалезны воўк» у Полацку. Пад яго кіраўніцтвам паўстаў народны тэатр гістарычнага касцюма «Полацкі Зьвяз», які кожныя тры гады пацвярджае званне народнага калектыву. Хоць апошнім часам Юры не ўдзельнічае ў прафесійных рыцарскіх баях, але як знаўцу яго запрашаюць у якасці вядоўцы альбо каментатара баёвак на рознага кшталту фестывалі гістарычнай рэканструкцыі. Так сталася і з фестывалем «Наш Грунвальд», на якім Юры паспеў пабываць і ў якасці гледача, і летась — у якасці вядучага другой сцэны.

— Я быў вельмі ўсцешаны такой прапановай, таму што «Наш Грунвальд» — адзін з самых класных фэстаў. Ён, бадай, найбольш масавы ў Беларусі: туды з'язджаецца шмат удзельнікаў — некалькі соцень, прычым з розных краін. Гэта крута!

Як няцяжка здагадацца з назвы, фестываль прысвечаны слыннай перамозе аб'яднаных войскаў Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай над крыжакамі, якая адбылася 15 ліпеня 1410 года пад Грунвальдам (Усходняя Прусія, цяпер тэрыторыя Польшчы). І адна з адметнасцяў фэсту ў тым, што госці змогуць на ўласныя вочы пабачыць рэканструкцыю некаторых эпізодаў бітвы і адчуць трыумф перамогі і гонар за нашых продкаў.

— Важнасць гэтай падзеі, паводле арганізатараў, можна ахарактарызаваць адным сказам: на Грунвальдскую бітву ехалі харугвы смаленскія, полацкія, віцебскія, аршанскія, мсціслаўскія, а назад вярталіся пераможцы-ліцвіны, — кажа суразмоўца.

Разам з тым фэст папулярызуе агульнаеўрапейскія традыцыі рыцарства, ад якіх нашыя землі таксама не былі адарваныя.

— Рыцарскія турніры, пра якія мы гаворым, узніклі прыкладна адначасова ў Германіі і Францыі, потым гэтая культура стала пашырацца ў Англію (XII стагоддзе), Венгрыю (XIII стагоддзе), Чэхію (XIV стагоддзе), Польшчу. Напрыканцы XIV стагоддзя турнірныя традыцыі прыйшлі і на нашыя землі, — распавядае Юры Усціновіч. — Рыцарскія турніры на нашых беларускіх землях у часы Вялікага Княства Літоўскага, хутчэй за ўсё, праводзіліся не толькі ў каралеўскіх і вялікакняжацкіх дварах, але, магчыма, і ў магнацкіх. Ускосна пра гэта сведчыць багатая калекцыя менавіта турнірных даспехаў тых жа Радзівілаў. Цяпер яе ў нас няма, яе часткі знаходзяцца ў Кракаве, Вене, музеях Амерыкі, Эрмітажы… Але і цяпер, паасобку, складнікі калекцыі ўяўляюць сабой шэдэўры.

> Фестываль паказвае, што нашы продкі — крутыя ваяры, у нас слаўная гісторыя. І нам ёсць за што сябе паважаць. Бо не будзем паважаць самі сябе — ніхто не будзе, і суседзі пакрысе будуць забіраць нашую гісторыю, як гэта цяпер адбываецца. У гэтым плане «Наш Грунвальд» ставіць кропку — ён наш



Акрамя таго, дадае Юры, прадстаўнікі многіх нашых родаў ездзілі па Еўропе і праявілі сябе ў турнірах. Тыя ж Радзівілы ці Аляксандр Солтан, які атрымліваў узнагароды як пераможца рыцарскіх турніраў і ад англійскага караля, і ад герцага Бургундскага.

Традыцыя рыцарскіх фэстаў у сучаснай Беларусі стала актыўна развівацца ў другой палове 1990-х гадоў на хвалі адраджэнскага рамантызму. Хаця цяпер, на думку Юрыя Усціновіча, рэканструктарскі рух пакрысе затухае. Не тое каб рамантыкаў паменела — проста частка з іх адфільтроўваецца камп'ютарнымі гульнямі, якіх раней не было, і, каб «пагуляцца ў Сярэднявечча», трэба было вырабляць даспехі, трэніравацца. Гэта цяжкая праца, якую цяпер можна замяніць націсканнем кнопак на камп'ютары. Да таго ж, як ужо было сказана, рэканструкцыя — дарагое задавальненне, якое пераходзіць у шэраг элітарнага. Таму сённяшнія рыцарскія фэсты, асабліва такія буйныя, як «Наш Грунвальд», — унікальныя, бо збіраюць людзей, якія сапраўды гараць гэтай справай.

А яшчэ гэта першы ў Беларусі фэст, які з мінулага года ўвёў рэальныя конныя турніры.

— У свеце ўвогуле зараз мала хто праводзіць рэальныя конныя сшыбкі, Беларусь — адна з пяці краін, дзе гэта адбываецца. Я ведаю, што і сёлета яны будуць на «Нашым Грунвальдзе», — распавядае Юры.

Па словах знаўцы, гэта сапраўды шыкоўнае відовішча, і глядач, пабачыўшы аднойчы сапраўдны конны турнір, пасля зможа адрозніваць яго ад «паказушнага», і адназначна атрымае больш драйву і адрэналіну.

— Уявіце: у рэальнай сшыбцы па-сапраўднаму ламаюцца і разлятаюцца на трэскі дзіды. Бо сэнс у тым, каб, паводле правілаў турніраў XV стагоддзя, альбо збіць суперніка з сядла, альбо зламаць дзіду, — тлумачыць суразмоўца. — Вядома, без траўмаў не абыходзіцца, але ахоўнае ўзбраенне як для рыцара, так і для каня, мінімізуе іх.

Аматараў баёў чакаюць і камандныя бітвы, і двубоі, і розныя рыцарскія выпрабаванні, у якіх, дарэчы, можна паўдзельнічаць і гледачам. Паласа рыцарскіх перашкодаў, якую ўпершыню зладзяць на фэсце сёлета, — выдатная магчымасць спраўдзіць свой фізічны стан і на сабе адчуць, як жылося ваярам Сярэднявечча.

Але бойкі — гэта яшчэ не ўсё. Апроч гэтага «Наш Грунвальд» адметны тым, што падчас яго адбываецца, фактычна, фестываль у фестывалі. Акрамя рыцарскіх турніраў, якія праходзяць зранку да пачатку вечара, на свяце выступаюць музычныя гурты з розных краін (сёлета, апроч беларускіх музыкаў, выступяць каманды з Украіны, Расіі, Германіі, Італіі, Аргенціны), а хэдлайнерам будзе сусветнавядомы medieval гурт «Corvus Corax» — таму аматарам усемагчымых спалучэнняў фолку і року будзе чым заняць вушы. Плюс другая сцэна, дзе выступяць таксама вартыя гурты, тэатральныя каманды і танцавальныя калектывы.

Сярод выступоўцаў эксперт раіць звярнуць увагу на шатландскую пяхоту — у гэтым годзе яны падрыхтавалі адметную праграму. Ну і як жа без традыцыйнага кірмашу і гораду майстроў?

— Прафесіяналізм арганізатараў фэсту год ад года расце. Хаця «Наш Грунвальд» — не самы першы фестываль такога кшталту (напрыканцы 1990-х — пачатку 2000-х гадоў быў той жа «Белы замак» і іншыя), але ён ужо пройдзе ў 11-ты раз. І за свае 11 гадоў ён стаў самым масавым і папулярным. Пры тым, што, каб трапіць туды, удзельнікі мусяць прайсці пэўны адбор па адзенні, даспехах і гэтак далей.

У той жа час «Наш Грунвальд» яшчэ не вычарпаў свайго патэнцыялу, і фэсту ёсць куды расці. Напрыклад, Юры Усціновіч мяркуе, што больш увагі можна надаць працы герольдаў, якія могуць прыгожа дапаўняць турніры, распавядаючы пра ўдзельнікаў боек, іх гербы і дасягненні. Але з галоўнай задачай — «заражэннем бацылай патрыятызму» — фестываль спраўляецца.

— Ён паказвае, што нашы продкі — крутыя ваяры, і ў нас слаўная гісторыя. І нам ёсць за што сябе паважаць. Бо не будзем паважаць самі сябе — ніхто не будзе, і суседзі пакрысе будуць забіраць нашую гісторыю, як гэта цяпер адбываецца. У гэтым плане «Наш Грунвальд» ставіць кропку — ён наш, хаця ёсць Грунвальдскі фэст і ў Польшчы. І няхай нават праз нейкія праблемы беларускія ўдзельнікі не могуць паехаць на фестываль у Польшчу, мы ў сябе паказваем, што таксама зрабілі вялікі ўнёсак у гэтую перамогу, — падсумоўвае Юры Усціновіч.

# Мяжа маралі...

**У сталічным Палацы мастацтваў 17 ліпеня адкрылася мастацкая выстава «МЯЖА».**




Выстава праводзіцца ў рамках Міжнароднага праекта «МЯЖА». Праект прысвечаны актуальнай для сусветнай супольнасці праблеме сямейнага гвалту. Акрамя выставы работ айчынных і замежных мастакоў па гэтай тэматыцы, праект уключае ў сябе семінары з экспертамі, багасловамі, літаратарамі, мастакамі і мастацтвазнаўцамі.

Арганізатарам праекта «Мяжа» выступае Грамадскае аб'яднанне «Беларускі саюз мастакоў» і Рэспубліканская мастацкая галерэя. Куратар праекта — першы намеснік старшыні ГА БСМ Глеб Анатольевіч Отчык.

Галоўная мэта праекта — сродкамі мастацтва выявіць праблему навакольнага асяроддзя, яго ўплыў на асобу ў прасторы, а таксама падрыхтаваць тэарэтычную базу і практычную інфармацыю пра перспектывы працы над жыццёвымі праблемамі на аснове хрысціянскіх прынцыпаў разумення.

Чакаецца, што рэалізацыя праекта істотна актывізуе ўзаемадзеянне грамадскіх арганізацый з цэнтрамі падтрымкі мясцовых ініцыятыў, хрысціянскімі канфесіямі, павысіць дасведчанасць розных катэгорый насельніцтва, дапаможа процідзейнічаць хатняму гвалту і розным тэндэнцыям, якія негатыўна ўплываюць на жыццё.

Паняцце «МЯЖА» мае глыбокі сэнс у выяўленчым мастацтве. Мастак сваёй творчасцю ставіць пад пытанне ўсё асяроддзе. Мяжа ў мастацтве — гэта свайго роду мяжа светапогляду, маралі, этыкі і жыццёвага асэнсавання Свету.

У рамках выставы плануецца прыцягненне мастакоў не толькі з горада Мінска, але і з рэгіёнаў. Свае працы таксама прадставяць мастакі з Эстоніі, Чэхіі, Літвы, Украіны і Балгарыі.

Выстава працягнецца па 28 ліпеня.

# БагатаДата

**Вы ведаеце, калі адзначаецца Сусветны дзень мозгу і Міжнародны дзень боксу? А што звязвае Warner Brothers з Беларуссю? Іншыя цікавосткі — у нашым аглядзе.**

## 20 ліпеня

**Міжнародны дзень шахматаў і Міжнародны дзень торта.**

**1994.** Адбылася інаўгурацыя першага прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Ён заступіў на пасаду і прынёс прысягу ў Авальнай зале Дома ўраду пад бел-чырвона-белым сцягам на трыбуне з гербам «Пагоня» па-беларуску.

## 21 ліпеня

**Дзень металурга** (адзначаецца ў Беларусі ў трэцюю нядзелю ліпеня).

**1994.** Дэпутаты Вярхоўнага Савета зацвердзілі кандыдатуры ўрадаўцаў, якія прапанаваў Лукашэнка. Прэм'ер-міністрам стаў былы кіраўнік «Белаграпрамбанку» Міхаіл Чыгір, Міністэрства ўнутраных спраў узначаліў Юрый Захаранка, МЗС — Уладзімір Сянько. Першым указам Лукашэнкі было акурат прызначэнне прэм'ер-міністра.

## 22 ліпеня

**Сусветны дзень мозгу і Міжнародны дзень боксу.**

**1914.** У Оршы нарадзіўся савецкі кінасцэнарыст і паэт-песеннік Барыс Ласкін. Фільмы на яго сцэнары: «Дайце кнігу скаргаў», «Карнавальная ноч». Песні на яго словы: «Спяць курганы цёмныя», «Тры танкісты», «Эх, шлях-дарожка франтавая». Дом, дзе нарадзіўся Ласкін, быў знесены ў Оршы ў 2008 годзе, калі горад упарадкавалі да «Дажынак». Хаця краязнаўцы прапаноўвалі зрабіць там музей творцы і музей яўрэяў.

## 23 ліпеня

**1884.** Нарадзіўся Альберт Уорнер, адзін з братоў-заснавальнікаў знакамітай амерыканскай кінастудыі «Уорнер Бразэрс». Бацька братоў прыехаў за акіян з Браслаўшчыны.




## 24 ліпеня

**1934.** У вёсцы Глыбачка Ушацкага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся акцёр Купалаўскага тэатра (з 1962 да смерці ў 2018 годзе), народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук. Ролі ў спектаклях: Сымон («Раскіданае гняздо»), Зёлкін («Хто смяецца апошнім»), Яўмень («Ажаніцца — не журыцца»), Андрэй Буслай («Парог»), Добчынскі («Рэвізор»). Ролі ў кіно: бацька Ганны («Людзі на балоце»), старэйшы сын Андрэй Ходас («Белыя Росы»), Пятрок («Знак бяды»).

## 25 ліпеня

**Дзень пажарнай службы ў нашай краіне.**

**1959.** У Алі-Байрамлы ў Азербайджане нарадзіўся Анатоль Куляшоў, міністр унутраных справаў Беларусі ў 2009–2012 гадах.

**1984.** У Мінску на 54-м годзе жыцця памёр класік беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч («Каласы пад сярпом тваім», «Чорны замак Альшанскі», «Дзікае паляванне караля Стаха» і іншае).

**1984.** Савецкая касманаўтка Святлана Савіцкая першай у свеце з жанчын выйшла ў адкрыты космас. Яна мае повязь і з Беларуссю. Яна не з беларускімі каранямі, як першая касманаўтка Валянціна Церашкова, але муж Святланы Савіцкай, Віктар Хаткоўскі, лётчык, родам з Мінска.

## 26 ліпеня

**Дзень штучнай мовы эсперанта,** якую прыдумаў Людвік Заменгоф (родам з Беластоку, некалькі гадоў жыў і працаваў у Гродне).

**1944.** У Каменску Палтаўскай вобласці Украіны нарадзіўся Васіль Стражаў, доктар фізіка-матэматычных навук, міністр адукацыі Беларусі з 1994 па 2001 гады, а пазней рэктар Белдзяржуніверсітэта.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1126

Падпісана да друку 19.07.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.